№ 17 (950) 4 мая 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## КДБ арыштаваў дзясяткі кватэр у «доме Чыжа»

Старонка 6.

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». Старонка 2.

# Веснавое абвастрэнне

Псеўдабайкеры з **«Начных ваўкоў»** абвясцілі Беларусь Расіяй.

Другі год матацыклісты з пракрамлёўскага клуба «Начныя ваўкі» спрабуюць правесці піяракцыю «Дарогамі перамогі — на Берлін». На матацыклах яны хочуць праехаць праз Беларусь і Польшчу — да сталіцы Германіі. Зноў, як і летась, іх шлях скончыўся на заходняй мяжы Беларусі. Польскія пamежнікі адмаўляюцца прапускаць правакатараў з фармулёўкай «пагрозы грамадскай бяспецы ўнутры краіны».

«Начныя ваўкі» былі тымі, хто ўдзельнічаў у анексіі Крыма. Адзначыліся яны і ў бойні на Данбасе. Іх ідэалогія спалучае ў сабе праваслаўе, ушанаванне савецкага мінулага, а таксама культ Пуціна. З прэзідэнтам Расіі кіраўнік «Начных ваўкоў» Аляксандр Залдастанаў у прыяцельскіх адносінах.

Летась у Беларусі матацыклістаў з Расіі прымалі на высокім дзяржаўным узроўні. З хлебам-соллю на Кургане Славы іх сустракаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па ідэалогіі Ігар Бузоўскі.

**Працяг на старонцы 3.**




SPUTNIK-БЕЛАРУСЬ

## Амерыцый: як засцерагчыся ад прадукту распаду плутонію, выкінутага Чарнобылем

У першыя дні пасля аварыі самая небяспека для здароўя звычайных людзей была ад ёду-131. Ён хутка распадаецца. У першыя дзесяцігоддзі найбольшай пагрозай быў цэзій-137. Яго выпала найбольш, але ён паўраспадаецца за 30 гадоў. З часам найбольш каварным робіцца амерыцый-241 — прадукт распаду плутонію-241. Падступнасць амерыцыю ў тым, што яго колькасць з часам толькі расце. Яго перыяд паўраспаду гіганцкі — 433 гады. І ён — крыніца альфа-выпраменьвання, гэта смяротная пагроза для органаў цела.

Плутоній — элемент цяжкі. Таму ён падаў у Чарнобыльскай зоне і вакол яе. Ад яго засцерагчыся лёгка: галоўнае, выконваць правілы асабістай гігіены і гаспадарчай дзейнасці. Увогуле, радыяцыя — не містыка, а хімія. І ставіцца да яе трэба навукова, тады можна спакойна жыць. Пра радыеактыўныя ізатопы «Наша Ніва» пагутарыла з фізікам **Валерыем Гурачэўскім**.

**— Мінула 30 гадоў ад Чарнобыльскай катастрофы. Гэта не проста чарговая круглая дата, але і час паўраспаду асноўных радыеактыўных ізатопаў, якімі пасля выбуху была забруджаная тэрыторыя Беларусі — цэзію-137 і стронцыю-90. З тых ізатопаў у выніку распаду ўтвараюцца новыя рэчывы. Наколькі яны небяспечныя?**

**Валерый Гурачэўскі:** Прайшоў перыяд паўраспаду — гэта значыць, палова ад аб'ёму радыенуклідаў ператварыліся ў стабільныя нукліды, якія не выпраменьваюць радыяцыі. Яшчэ праз 30 гадоў распадзецца палова ад таго аб'ёму, што застаўся, пасля — яшчэ палова... Каб увесь аб'ём цэзію і стронцыю, які выпаў у выніку Чарнобыльскай аварыі, зменшыўся ў 1024 разы, трэба 10 перыядаў паўраспаду — тырста гадоў. Так што гэтая гісторыя яшчэ надоўга.

**— З радыеактыўнага стронцыю-90 у выніку распаду ўтвараецца ітрый-90, а пасля ўжо стабільны метал цырконій. Ці небяспечны ітрый?**

**ВГ:** Так, ітрый-90 таксама радыеактыўны. Стронцый, распадаючыся, выдзяляе бэта-часціцу, атрымліваецца ітрый. Ітрый, у сваю чаргу, таксама выпраменьвае бэта-часціцу.

**Працяг на старонцы 4.**

## Жураўліная песня

Як старыя партызаны шукалі парэшткі сваіх пабрацімаў. Піша Сяргей Ваганаў. **Старонка 13.**

## Дзве душы

Вялікі Пінігін паставіў вялікага Гарэцкага. **Старонка 12.**

### Адкрыты ліст Аляксандру Лукашэнку

А хто ж будзе дапамагаць Вам у касьбе, калі Юрый Чыж пад вартай? **Старонка 10.**

## Старажоўка — невядомы цэнтр Мінска

Піша Паўліна Купрысь. **Старонка 14.**

# Стала вядомае званне Дар'і Домрачавай у КДБ

Даўнім спрэчкам адносна таго, ці з'яўляецца Дар'я Домрачава супрацоўнікам КДБ, нарэшце дадзены адказ.

Гродзенскі журналіст Андрэй Пачобут звярнуў увагу на прафайл Героя Беларусі Дар'і Домрачавай на сайце БФСТ «Дынама». У ім адзначаецца, што спартсменка праходзіць службу ў КДБ. Яна мае званне старшага лейтэнанта.

Федэрацыю біятлона Беларусі ўзначальвае старшыня КДБ Валерый Вакульчык. Раней гэтую пасаду займалі ягоныя папярэднікі ў камітэце — Вадзім Зайцаў, Юрый Жадобін, Сцяпан Сухарэнка.

Многія беларускія біятланісты пасля скканчэння кар'еры ідуць працаваць у КДБ. У СМІ з'яўляліся паведамленні пра пераход на працу ў КДБ Людмілы Ананька, Вольгі Назаравай, Вольгі Кудрашовай і іншых.

Дар'я Домрачава — унікальная беларуская біятланістка. Яна трохразовая алімпійская чэмпіёнка (2014).

Сёлета яна прапусціла старты, цяпер Домрачава чакае дзіця ад славутага нарвежскага біятланіста Уле-Эйнара Б'ёрндалена.

Зміцер Панкавец



Дар'я Домрачава са старшынёй КДБ Валерыем Вакульчыкам.

## Яму цікавей ведаць мову баскаў, чым беларускую

«У мяне супярэчлівае стаўленне да беларускай мовы... Большую частку часу я знаходжуся ў Іспаніі, акурат на мяжы з Краінай Баскаў. Яна афіцыйна не існуе як адміністрацыйная адзінка, але жыхары лічаць інакш: усяляк адмяжоўваюцца ад іспанскай апекі, гавораць на сваёй мове. Дык вось мне цікавей было б ведаць іхнюю мову эўскера, чым сваю, беларускую. Чаму? Таму што, прабачце, можа каго пакрыўджу, але беларуская мова — не жывая; гэта мёртвая мова, на якой практычна ніхто не размаўляе. Яе, як лічу, у прымусовым парадку навязваюць, напрыклад, прымушаюць вывучаць маю дачку. Я, па вялікім рахунку, супраць гэтага. І калі мяне запытаюць — ці трэба так рабіць — адкажу: канечне, не!» — заявіў ураджэнец Рэчыцы, беларускі веласіпедыст Васіль Кірыенка.




Ягоныя выказванні насмяшылі лінгвістаў і раззлавалі патрыятычна настроеных заўзятараў.

## Кіслы пра Кіпр: «Цяпер мы як краіна ўпэўнена глядзім у будучыню»

«Я сябе адчуваю грамадзянінам свету — практычна на кожным кантыненце ў мяне ёсць офіс, куды я магу зайсці, і мне там будуць рады», — заявіў у інтэрв'ю расійскаму РБК першы беларускі мільярдэр, заснавальнік «Свету танкаў» Віктар Кіслы.

Ужо некалькі гадоў ураджэнец Мінска і выпускнік БДУ з сям'ёй жыве на Кіпры. Там жа з 2011 года знаходзіцца штаб-кватэра кампаніі «Варгейммінг».

Калі некалькі гадоў таму на Кіпры выбухнуў фінансавы крызіс, банк замарозіў грошы ўкладчыкаў, сярод якіх аказалася і сродкі «Варгейммінга». Аднак цяпер улады вострава знайшлі паразуменне з сусветнымі фінансавымі арганізацыямі. «Цяпер мы як краіна ўпэўнена глядзім у будучыню», — натхнёна распавядае Віктар Кіслы, пад «мы» маючы на ўвазе кіпрыётаў.



БЮ

# Казка года: «Лестэр» стаў чэмпіёнам Англіі

Каманда «Лестэр Сіці» («Лісы») сенсацыйна выйграла прэм'ерлігу — англійскі футбольны чэмпіянат.

У 2008-м годзе каманда наогул выступала ў трэцім дывізіёне, пазалетась выйграла другі дывізіён, а летась заняла ў прэм'ер-лізе 14-е месца.

Перад пачаткам сезона каэфіцыент на перамогу «Лестэра» ў букмекераў складаў 5000 да 1.

Перамогу «Лестэра» ўжо называюць найвялікшым і самым неймаверным дасягненнем у гісторыі англійскага і еўрапейскага футбола.

«Лестэр Сіці» назаўжды ўвойдзе ў гісторыю англійскага футбола як каманда, якая стала чэмпіёнкай, нягледзячы на тое, што яшчэ летась змагалася за права застацца ў прэм'ер-лізе.

Да пачатку чэмпіянату «Лестэр Сіці» лічыўся адным з галоўных кандыдатаў на вылет.

Перад прыходам у каманду трэнер Раньеры быў звольнены з пасады галоўнага трэнера зборнай Грэцыі пасля таго, як яго падапечныя нечакана прайгралі зборнай Фарэрскіх астравоў.

Прыйшоўшы ў «Лестэр», Раньеры змог менш чым за 30 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў сабраць каманду, што кінула выклік эліце англійскага клубнага футбола.

Пры гэтым у камандзе не было ніводнай футбольнай зоркі, а было шмат гульцоў, адкінутых іншымі клубамі.

Алег Гардзіенка




## Сціслa

**«Хоўм Крэдыт» у мінусе на $23 мільёны**

Па выніках першага квартала 2016 года «Хоўм Крэдыт Банк» стаў найменш прыбытковым банкам краіны. Гэта трывожны сімптом для ўкладчыкаў чэшскага банка.

**Інспектар ДАІ два тыдні ў коме**

Стан інспектара ДАІ, які ў цэнтры Мінска трапіў у аварыю з матацыклістам, застаецца стабільна цяжкім. Адразу пасля ДТЗ яму зрабілі аперацыю, і ён дагэтуль застаецца ў коме.

**У Статкевіча забралі пасведчанне кіроўцы**

Раней яму адключылі мабільны тэлефон. За правядзенне акцый пратэсту на Статкевіча накладзеныя дзесяць штрафаў. «Тры яны павесілі на вайсковую пенсію, з якой незаконна вылічваюць 50% замест 20%, а за астатнімі штрафамі ганяюцца», — расказвае палітык.

**Алексіевіч набыла новую кватэру і дом у вёсцы**

«Я змагла купіць кватэру новую. Зараз там рамонт робяць да канца. І дом у вёсцы — лепшы, чым той, які ў мяне раней быў», — расказала нобелеўская лаўрэатка ў інтэрв'ю расійскаму сайту ТУТіТАМ. Нагадаем, раней Алексіевіч жыла ў доме на вуліцы Старажоўскай на беразе Свіслачы насупраць Траецкага прадмесця і мела летні дом у вёсцы ў Мінскім раёне.

ЯМ

## Дзве варта быць

**5—6 мая ў Мінску пройдзе Кангрэс беларускай культуры**

У Акадэміі навук збярэцца больш як 300 беларусістаў з розных канцоў свету.

## Апытанне на nn.by

**Ці купляеце вы малочныя і мясныя прадукты вырабу Гомельскай і Магілёўскай абласцей?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 277 | 31% |
| Не | 472 | 52% |
| Я не разбіраюся | 150 | 17% |

Прагаласавала 899 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 27 красавіка — 3 мая

1 «Бо я яму ні храна і ён мне ні храна»: феадалізм у асобна ўзятым Касцюковіцкім раёне

2 «Крытычная маса» ў Мінску скончылася брутальнымі затрыманнямі ўдзельнікаў

3 Мужчына, які залез на кран у цэнтры Мінска, спусціўся і быў затрыманы міліцыяй

4 Лідар «Начных ваўкоў» Залдастанаў: «Беларусь — гэта Расея»

5 КДБ зверне ўвагу на заявы Залдастанава

6 Вада ў беларускіх калодзежах становіцца платнай

7 Залдастанаў штурхнуў журналіста, які задаў яму пытанне пра пачатак Другой сусветнай вайны

8 19-гадовы хлопец адкрыў у Мінску краму з рэчамі ў нацыянальным стылі

9 Жахі адной ночы на мытні «Каменны Лог»: як наша чытачка Ядвіга Іконнікава везла з Літвы чатыры пакрышкі

10 Веласіпедыст Васіль Кірыенка: Беларуская мова — мёртвая, мне цікавей ведаць мову баскаў

# Веснавое абвастрэнне

Працяг са старонкі 1.

Перамяшчэнні «Ваўкоў» па Беларусі шырока асвятляліся на дзяржаўных тэлеканалах.

На гэты раз прыём Залдастанава і кампаніі быў сціплейшы. Праўда, актывісты БРСМ зноў сустракалі з кветкамі гэтых дзіўных людзей на матацыклах.

У Хатыні Залдастанаў увогуле адзначыўся. Ён сказаў, што «Беларусь і Украіна — гэта Расія». Абуральны факт. І што вы думаеце? На наступны дзень Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі з Брэста зноў сустракае «Начных ваўкоў» з кветкамі ля Брэсцкай крэпасці.

На сустрэчы прысутнічаў асабіста кіраўнік гарадскога БРСМ Дзяніс Сілівонік. Мы паспрабавалі высветліць у спадара Сілівоніка, якое ў яго стаўленне да заяў Залдастанава, аднак «камсамолец» проста кінуў слухаўку, калі пачуў пытанне.

Затое ахвочым на словы аказаўся другі сакратар брэсцкага БРСМ Пятро Піцко. «Прыехаў Хірург. Даў па карку няўдачніку-ліберасту Леўчуку [маецца на ўвазе брэсцкі журналіст Алесь Ляўчук]. Такога выбуху эмоцый у нашых змагароў не было нават на прыезд Пуціна. Здаецца, звычайны байкер, а бурленне рэвалюцыянераў як на Майдане выклікаў. Нічога сказаць пра яго не магу: ні добрага, ні дрэннага, але, відаць, сур'ёзны дзядзька, калі нашы «еўрапейцы» так замітусіліся яго спробай наведаць магілы савецкіх салдат», — напісаў Піцко на сваёй старонцы Укантакце.

Увогуле, намеры Залдастанава заслугоўваюць, прынамсі, праверкі з боку сілавых структур. А ягонае выказванне ў Хатыні тым больш.

«Каментаваць заявы чалавека, які быў невядома яшчэ ў якім стане падчас іх выказвання, я не буду, — сказаў нам прэс-сакратар КДБ Дзмітрый Пабяржын. — Але я звярну ўвагу нашых кампетэнтных падраздзяленняў на гэта».

У выніку «Начных ваўкоў» завярнулі і на польскай, і на літоўскай мяжы. Мотапрабег, які гэтак афішаваўся расійскімі СМІ кшталту *Lifenews*, скончыўся безвынікова.

**Зміцер Панкавец, Арцём Гарбацэвіч**

**Цытата**

**«Вось гэта, вось гэта, вось гэта ўсё зацявае, вось гэта»**

Лідар «Начных ваўкоў» Аляксандр Залдастанаў вылучаецца красамоўствам. Вось ягоная славутая цытата пра русафобію, сказана гэта было летась у Брэсце:

«Тыя, хто зацявае русафобію, русафобію зацявае. Вось гэта, вось гэта, вось гэта ўсё зацявае, вось гэта. Гэтым людзям я ўсё і адрасоўваю: „Дагуляецеся!“ З гэтай русафобіяй, якую вы зацяваеце».

**Апытанне на nn.by.**

**Ці павінны ў Беларусі ўрачыста сустракаць «Начных ваўкоў»?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 101 | 5% |
| Не | 408 | 20% |
| Ды іх зусім не павінны пускаць у нашу краіну | 1403 | 69% |
| А хто гэта? | 135 | 7% |

Усяго прагаласавала 2047.



## Канцэрт памяці Ганны Вольскай у КЗ «Мінск» не дазволілі

Спасламіся на «дзяржаўнае мерапрыемства».

1 мая споўнілася 40 дзён са дня смерці Ганны Вольскай — жонкі і прадзюсаркі вядомага музыкі Лявона Вольскага. Каб ушанаваць яе памяць, сябры і знаёмыя вырашылі правесці канцэрт.

«Тады, у канцы сакавіка, практычна адразу, вялікая колькасць сяброў-музыкаў прапанавала правесці канцэрт памяці Ганны. Акустычны, ціхі і добры. Сямейны. Каб усе, каму дарагая Аня, змаглі прыйсці разам са сваімі дзецьмі і пабыць разам. Паўзгадваць... — напісаў у сваім фэйсбуку прадзюсар Уладзімір Шаблінскі. — Доўга выбіралі пляцоўку і прыйшлі да разумення, што трэба рабіць у КЗ «Мінск». І ў часы NRMa, і наступныя імпрэзы «Крамбамбулі» мы разам перажылі ў гэтай зале многае. Значную частку жыцця».

Зборы з канцэрта збіраліся накіраваць альбо Лявону Вольскаму на альбом, альбо на рамонт яго хутара.

Канцэрт хацелі зладзіць 7 ліпеня. Але ж здаць у арэнду залу адмовіліся. Шаблінскі прадэманстраваў афіцыйны адказ Дзяржаўнай установы «Рэспубліканскі культурна-асветніцкі цэнтр». У ім гаворыцца, што 6—8 ліпеня ў КЗ «Мінск» пройдзе «мерапрыемства з удзелам органаў дзяржаўнай улады, сілавых міністэрстваў і ведамстваў»..

Цікава, што ў культурна-асветніцкім цэнтры сваю ж заяву і абверглі. «Рэпертуарны план на ліпень яшчэ не зацверджаны. Заяўкі падаюцца, але ці будзе нейкая канкрэтная імпрэза і ў які час, пакуль не вырашана», — паведаміў Станіслаў Андрасюк, галоўны спецыяліст арганізацыйна-метадычнага аддзела цэнтра.

**УШ**

## Змены ў выбарчым працэсе: касметычны рамонт

Абвешчана, што парламенцкія выбары адбудуцца 11 верасня.

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына кажа, што патрэбна, каб у парламенце з'явіўся «іншы пункт погляду». «Я думаю, што ўлады імкнуцца да гэтага», — сказала яна ў эфіры АНТ.

Перад гэтым адбылася нарада па выбарах у Аляксандра Лукашэнкі. Кіраўнік Беларусі даў задачу зрабіць выбарчы працэс «больш празрыстым у адпаведнасці з рэкамендацыямі АБСЕ па выніках прэзідэнцкіх выбараў 2015 года».

Сярод навінак будучых парламенцкіх выбараў — павышэнне празрыстасці працэсу фармавання выбарчых камісій.

— ЦВК падрыхтуе пастанову, якая будзе абавязковай для выканкамаў, аб парадку фармавання выбарчых камісій. Гэты працэс павінен праходзіць не толькі галосна, але і дыскусійна. У выпадку конкурсу на месцы ў выбарчамах павінна праводзіцца дыскусія і даваццa тлумачэнні, чаму аддаецца перавага на карысць той ці іншай кандыдатуры.

Другая прапанова тычыцца празрыстасці разгляду выбарчых спрэчак.

— Усе рашэнні, якія выносяць выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў, публікаваць у глабальнай сетцы Інтэрнэт.

Нарэшце, трэцяя прапанова — павышэнне празрыстасці пры падліку галасоў.

— Была ўзгодненая ініцыятыва ЦВК аб тым, што ўвесь падлік бюлетэняў будзе праводзіцца на адным баку стала. Назіральнікі будуць мець поўную магчымасць бачыць працэс падліку галасоў. Акрамя таго, назіральнікам будзе прадастаўляцца інфармацыя, якая не прадугледжана арт. 13 Выбарчага кодэкса, напрыклад, звесткі пра колькасць выбаршчыкаў і тых, хто прагаласаваў. Міжнародныя назіральнікі будуць допушчаныя ў акруговыя камісіі пры прыёмцы пратаколаў ад участковых камісій.

Па словах Ярмошынай, гэтая практыка будзе цяпер распаўсюджаная на ўсе выбарчыя кампаніі.

«Пакуль мы бачым у выкананні ўладаў толькі шчырую рэкламу электаральнай касметыкі», — іранічна адзначыў палітычны аглядальнік Аляксандр Класкоўскі.

**ЗП**

## Крыніца: За ахінеяю віцэ-прэм'ера Калініна журналістку АНТ адхілілі ад эфіру, ёй пагражае звальненне

Як паведамілі «Нашай Ніве» інфармаваныя крыніцы, журналістку АНТ (імя называць пакуль не будзем) на месяц адхілілі ад эфіру за тое, што яна дала ў навіны ахінею віцэ-прэм'ера Калініна пра «самыя сучасныя трафікі».

Таксама за гэты час мусіць вырашыцца пытанне аб яе звальненні з канала.

Мауляў, заўвагі што да яе працы ў кіраўніцтва АНТ былі і раней, але інцыдэнт з віцэ-прэм'ерам стаў апошняй кропляй.

«Усе сінхроны [фрагменты інтэрв'ю — **рэд.**] трэба выпісваць словамі, каб было зручней мантаваць. А яна гэтага не зрабіла, паставіўшы так. Вось у чым палягае парушэнне вытворчага працэсу. Не тое, што яе пакаралі менавіта за словы Калініна, а быў адыход ад інструкцыі», — паведаміла нашая крыніца.

Трохі раней кіраўнік інфармацыйнага вяшчання АНТ Руслан Паддубскі назваў фрагмент з Калініным у эфіры канала «чыстай неахайнасцю журналіста» і паабяцаў ужыць «дысцыплінарныя меры».

**Сяргей Гезгала**




**Фотафакт**

**Трафарэты з выявай аўтамата ды надпісам «Русская весна» з'явіліся на бетонных слупах ЛЭП каля Сляпянскага канала ў раёне вуліцы Філімонава, што ў Партызанскім раёне Мінска.**

**Як вядома, сам тэрмін «Русская весна» быў прыдуманы расійскай прапагандай падчас анексіі Крыма і спробы далучэння Данбаса.**

# Амерыцый: як засцерагчыся ад прадукту

Працяг са старонкі 1.

Але ітрый мае вельмі кароткі перыяд паўраспаду — 64 гадзіны, змяненні стронцыю аўтаматычна ўлічваюць і ітрый. Колькі было стронцыю — столькі будзе і ітрыю. Накапленне не адбываецца.

Але бэта-выпраменьванне ітрыю больш небяспечнае за стронцый для жывых арганізмаў, і фактычна, калі мы кажам пра небяспеку стронцыю, гэта не зусім дакладна. Маецца на ўвазе ітрый.

### Арганізм прымае цэзій і стронцый за калій і кальцый

**— Якое іх уздзеянне на жывыя арганізмы?**

**ВГ:** Стронцый стаіць у адным слупку табліцы Мендзялеева з кальцыем. Па ўласцівасцях, з пункту гледжання жывых арганізмаў, яны падобныя: гэтыя рэчывы назапашваюцца ў костках. У адрозненне ад цэзію-137, апошні (як і калій) назбіраецца ў мяккіх тканках. А прырода прадугледзела выдатны спосаб вывядзення шлакаў з мяккіх тканак арганізма — мочапалавая сістэма. Ёсць такое паняцце — перыяд паўвываду з арганізма. Дык вось для цэзія гэта — пару месяцаў. Значыць, за год ён амаль цалкам з арганізма выходзіць.

А вось для костак такую сістэму прырода не прадугледзела. Таму назапашанае ў іх практычна не выводзіцца. Бэта-выпраменьванне стронцыю, назапашанага ў костках, уздзейнічае на чырвоны касцяны мозг — крывятворны орган. Пры вялікіх дозах назапашанага ў арганізме стронцыю гэта можа выклікаць рак крыві. Але, паўтараю, гаворка ідзе пра вельмі вялікія дозы. Такія дозы не атрымаў ніхто з насельніцтва, толькі невялікая колькасць ліквідатараў.

**— А як стронцый трапляе ў арганізм?**

**ВГ:** Радыенукліды, стронцый у прыватнасці, трапляюць у арганізм праз ежу, пітво, малако.

**— Дзе ў Беларусі можна праверыць прадукты харчавання на ўтрыманне радыенуклідаў?**

**ВГ:** У Беларусі больш як 800 лабараторый займаюцца радыяцыйным кантролем харчовай прадукцыі. Практычна на любым прадпрыемстве, якое займаецца харчовай вытворчасцю, ёсць пункт радыяцыйнага кантролю. Пункты радыяцыйнага кантролю ёсць у сістэме Мінздароўя (санітарна-эпідэміялагічныя ўстановы), на буйных рынках.

**— Назапашаны ў костках стронцый паводзіць сябе так жа, як у прыродзе? Распадаецца ў ітрый, а пасля ў цырконій?**

**ВГ:** Так, але канцэнтрацыя гэтага рэчыва ў арганізме мікраскапічная.

### Асноўныя радыенукліды ў аварыйным выкідзе

| Радыенуклід | Перыяд паў-распаду | Актыўнасць у выкідзе, ПБк |
|---|---|---|
| Інертныя газы | | |
| крыптон-85 | 10,72 год | 33 |
| ксенон-133 | 5,25 сут. | 6 500 |
| Лятучыя элементы | | |
| тэлур-129 | 33,6 сут. | 240 |
| тэлур-132 | 3,26 сут. | ~1 150 |
| ёд-131 | 8,04 сут. | ~1 760 |
| ёд-133 | 20,8 г. | 910 |
| цэзій-134 | 2,06 года | 47 |
| цэзій-136 | 13,1 сут. | 36 |
| цэзій-137 | 30,0 год | ~85 |
| Элементы з прамежкавай лятучасцю | | |
| стронцый-89 | 50,5 сут. | ~115 |
| стронцый-90 | 29,12 год | ~10 |
| рубідый-103 | 39,3 сут. | >168 |
| рубідый-106 | 368 сут. | >73 |
| барый-140 | 12,7 сут. | 240 |
| Тугаплаўкія элементы (уключна з часцінкамі паліва) | | |
| цырконій-95 | 64,0 сут. | 84 |
| малібдэн-99 | 2,75 сут. | >72 |
| цэрый-141 | 32,5 сут. | 84 |
| цэрый-144 | 284 сут. | ~50 |
| нептуній-239 | 2,35 сут. | 400 |
| плутоній-238 | 87,74 год | 0,015 |
| плутоній-239 | 24 065 год | 0,013 |
| плутоній-249 | 6537 год | 0,018 |
| плутоній-241 | 14,4 год | ~2,6 |
| плутоній-242 | 376 000 год | 0,00004 |
| кюрый-242 | 163 сут. | ~0,4 |

З кнігі В.Гурачэўскага «Уводзіны ў атамную энергетыку. Чарнобыльская аварыя і яе наступствы».



**Валерый Гурачэўскі**

Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнік Цэнтра па радыялогіі і якасці прадуктаў у АПК пры Беларускім дзяржаўным агратэхнічным універсітэце. Аўтар больш як 100 навуковых публікацый, некалькіх кніг — у т.л. кнігі «Уводзіны ў атамную энергетыку. Чарнобыльская аварыя і яе наступствы».

### Перыяд паўраспаду — 432 гады

**— Апошнім часам пачалі гаварыць пра новы радыяцыйны ізатоп — амерыцый, які ўтвараецца ў выніку распаду радыяцыйнага плутонію. Але спачатку спытаю пра сам плутоній:**

## Пранікаючая здольнасць альфа-выпраменьвання мізэрная, калі яго крыніца звонку, а не трапляе ў арганізм

**дзе яго найбольш выпала пасля Чарнобыльскай аварыі?**

**ВГ:** Цэзій і стронцый — асколкі дзялення ядраў урану. Але, апроч асколкаў у рэактары, утвараюцца ядры, цяжэйшыя за уран — трансуранавыя элементы. Пераважную ролю адыгрываюць чатыры іх віды: плутон-238, плутон-239, плутон-240 і плутон-241. Яны знаходзяцца ў нетрах рэактара і былі выкінутыя ў атмасферу пасля аварыі. Гэта цяжкія рэчывы, 97% іх выпала ў радыусе прыкладна 30 кіламетраў вакол Чарнобыля. Гэта адселеная зона, куды чалавеку трапіць не так проста. Тры з гэтых ізатопаў — 238, 239 і 240 — маюць альфа-выпраменьванне. Па сіле свайго ўздзеяння на жывыя арганізмы альфа-выпраменьванне ў 20 разоў небяспечнейшае за бэта- і гама-выпраменьванні.

Але вось парадокс: плутоній-241 мае бэта-выпраменьванне. Здавалася б, шкоды ад яго меней. Але якраз ён падчас распаду ператвараецца ў амерыцый-241 — крыніцу альфа-выпраменьвання. Перыяд паўраспаду плутонію-241—14 гадоў. Гэта значыць, два перыяды ўжо мінула, і тры чвэрці рэчыва ператварылася ў амерыцый.

Плутонію-241 падчас аварыі на ЧАЭС выпала найбольш — гэта звязана з уласцівасцямі рэактара. І вось цяпер ён пераўтвараецца ў амерыцый-241. Раней у 30-кіламетровай зоне вакол рэактара і за яе межамі амерыцыю не было, цяпер ён з'яўляецца. Яго ўтрыманне расце і за межамі 30-кіламетровай зоны, дзе трансураны былі, але ў колькасцях,



WILDLIFE.BY

У зоне адсялення дзікіх жывёл можна пабачыць проста ў пакінутых вёсках.



**— тэрыторыя, забруджаная ізатопамі плутонію на 2015 год.**

Падрабязныя карты радыяцыйнага забруджання тэрыторый станам на 2015 год у добрай якасці глядзіце на сайце nn.by.

## У Палескім радыяцыйным запаведніку амерыцый знайшлі ў арганізмах дзікоў

Бо дзікі рылі і елі заражаную ім глебу.

Пра тое, як вывучаюць узровень утрымання амерыцыю ў глебе, «НН» расказаў Вячаслаў Забродскі, загадчык лабараторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Лабараторыя мае амерыканскія альфа- і гамаспектрометры фірмы *Canberra*, з дапамогай якіх можна вывучаць утрыманне амерыцыю і іншых радыеактыўных ізатопаў у глебе і прадуктах.

Вызначэнне сілы гама-выпраменьвання ў пробах глебы, донных адкладаннях, расказаў спадар Забродскі, гэта недарагі працэс. Аднак альфа-спектраметрыя дае ў тысячу разоў дакладнейшы вынік. Працэс займае каля сямі дзён і патрабуе дарагіх рэактываў — аналіз адной пробы можа каштаваць каля двух мільёнаў рублёў. На пытанне, ці можа фермер, які жадае праверыць сваю прадукцыю ці глебу, звярнуцца ў лабараторыю, загадчык адказаў станоўча. Праўда, адзначыў ён, ніхто пакуль не звяртаўся.



**Вячаслаў Забродскі каля гамаспектрометра.**

У любым пункце запаведніка невялікая колькасць амерыцыю ў глебе прысутнічае, кажа Забродскі. Можа ён быць і ў прылеглых раёнах. Але, адзначае навуковец, у выніку ядзерных выпрабаванняў амерыцый ёсць у любым пункце зямнога шара. У меншай канцэнтрацыі, вядома.

Калі амерыцый ёсць, чаму ж не змяняецца заканадаўчая база, не вызначаюцца нормы яго ўтрымання? Магчыма, таму не спяшаюцца, адзначае Забродскі, што амерыцый мае досыць нізкі каэфіцыент пераходу ў жывыя арганізмы. Гэта звязана з тым, што, напрыклад, цэзій і стронцый — гэта радыяцыйныя аналагі калію і кальцыю, рэчываў, якія з'яўляюцца асновай біялагічнага жыцця. А амерыцый і плутоній, з якога ён утвараецца, успрымаюцца арганізмамі як чужародныя элементы. І застаюцца, такім чынам, у глебе, не пераходзячы ў расліны.

І ўсё ж трапіць у чалавечы арганізм гэты радыеактыўны лежабок мае шанцы. Напрыклад, праз арганізмы тых, у чый рацыён уваходзіць глеба. «Мы праводзілі даследаванні на дзіках, — кажа Забродскі. — Зямля складае 2% іх рацыёну. Амерыцый, плутоній знайшлі нават у мышцах. Нямнога, на мінімуме выяўлення, але знайшлі».

Ці могуць гэтыя ізатопы трапіць у арганізм з дымам? Малаімаверна, адзначае Забродскі. «Калі былі пажары ў Хойніках, мы збіралі пробы часцінак дыму, сажы. Цэзій, стронцый у іх былі, але плутоній, амерыцый — не, бо яго няма ў драўніне».

# распаду плутонію, выкінутага Чарнобылем







якія не перавышаюць дапушчальныя ўзроўні. І трэба сачыць, перавысіць цяпер яго ўтрыманне дапушчальны ўзровень ці не.

### Дапушчальны ўзровень

**— А які дапушчальны ўзровень?**

**ВГ:** Заканадаўства амерыцый-241 пакуль не ўлічвае, і дакладныя дапушчальныя нормы яго ўтрымання ў прыродзе не вызначаныя. Але яны маюць быць прыкладна такія, як і для іншых ізатопаў з альфа-выпраменьваннем. І цяпер мы назіраем трывожную сітуацыю: у зонах, размешчаных блізка ад рэактара, расце альфа-выпраменьванне і растуць памеры гэтых зон. Прагноз — да 2060 года амерыцыю там будзе ў два разы больш, чым цяпер усіх ізатопаў плутонію разам. А перыяд паўраспаду амерыцыю — 432 гады. Так што гэтая праблема вельмі і вельмі надоўга.

### Ад апраменьвання звонку абароніць адзежа

**— У інтэрнэце пішуць, што выпраменьванне амерыцыю мае вялізную пранікальную здольнасць.**

**ВГ:** Пранікальная здольнасць альфа-выпраменьвання мізэрная. Але пры ўмове, што яно свеціць звонку. Ад яго можна захінуцца лістом паперы — і папера ўбярэ ў сябе альфа-выпраменьванне. У чалавека ролю такога ліста выконвае арагавелы верхні слой скуры. Дый адзежу трэба ўлічваць — ніхто ж голы па зоне не бегае. Але ёсць яшчэ апраменьванне ўнутранае — калі крыніца альфа-выпраменьвання трапляе ў арганізм. З ежай, напрыклад. І яно ўжо небяспечнае, бо з сярэдзіны арганізму няма чым ад яго абараніцца. 80—90% доз апраменьвання жыхароў сёння, а таксама захворванняў, звязаных з радыяцыяй, — вынік унутранага апраменьвання.

**— У якіх органах назбіраецца амерыцый?**

**ВГ:** У костках, як і стронцый. Гэта небяспечны радыенуклід. Але, паўтараю, у паніку кідацца не варта. Трэба праводзіць даследаванні, вымяраць.

**— Ці праўда, што амерыцый мае большую лятучасць у параўнанні з выходным плутоніем і таму працей можа «захопліваць» новыя тэрыторыі?**

**Амерыцый**

95-ы элемент табліцы Мендзялеева. Сінтэзаваны ў 1944 у Чыкага. Названы ў гонар Амерыкі (як раней рэчыва з падобнай знешняй электроннай абалонкай было названае ў гонар Еўропы). Мяккі метал, які свеціцца ў цемры за кошт уласнага альфа-выпраменьвання. Ізатоп амерыцый-241 накопліваецца ў выпрацаваным збройным плутоніі — гэтым абумоўлена тое, што ядзерныя адкіды маюць альфа-выпраменьванне. Перыяд паўраспаду амерыцыю-241— 432,2 гады.

**Зрабіць аналіз на амерыцый**

можна толькі ў лабараторыях з радыехімічным абсталяваннем. Гэтым займаецца Цэнтр радыяцыйнага контролю і маніторынгу навакольнага асяроддзя Міністэрства прыроды, Палескі дзяржаўны радыяцыйны запаведнік, Гомельскі інстытут радыебіялогіі і Інстытут радыялогіі МНС.

**ВГ:** Лятучасць аднолькавая прыкладна. Магчыма, ён мае большую за плутоній здольнасць пераходзіць з глебы ў расліны, але гэта яшчэ трэба правяраць.

### Радыкальны прагноз: небяспека аж да адсялення часткі Рэчыцкага раёна

**— Ці вядуцца даследаванні ўтрымання амерыцыю ў глебе, яго пашырэння?**

**ВГ:** Так. Гэтым займаецца Цэнтр радыяцыйнага кантролю і маніторынгу навакольнага асяроддзя Міністэрства прыроды, Палескі дзяржаўны радыяцыйны запаведнік — ён мае выдатную лабараторыю, дзякуючы нашым заходнім партнёрам. Таксама адпаведнае абсталяванне маюць Гомельскі інстытут радыебіялогіі і Інстытут радыялогіі МНС.

**— Але звычайны фермер ці старшыня калгаса ці зможа ў найбліжэйшай з тых 800 лабараторый радыяцыйнага кантролю праверыць сваю прадукцыю на ўтрыманне амерыцыем?**

**ВГ:** Выяўленне амерыцыю магчымае толькі ў лабараторыях з радыехімічным абсталяваннем. Гэта доўгае і дарагое даследаванне. Але, калі нехта звернецца ў названыя вышэй інстытуцыі, думаю, там ім дапамогуць. У большасці з названых 800 лабараторый можна вызначыць узровень цэзію-137 і калію-40. На стронцый даследаванні робяць не паўсюль.

**— Якія тэрыторыі Беларусі атручаныя (ці могуць быць у наступныя гады атручаныя) амерыцыем?**

**ВГ:** Тут навукоўцы спрачаюцца. Некаторыя лічаць, што сітуацыя вельмі сур'ёзная, і нават частка Рэчыцкага раёна трапіць у зону паражэння.

**— І якія меры можна прымаць, каб засцерагчыся?**

**ВГ:** Паўтараю, гэта толькі версія. Але ў тым выпадку ніякія меры не дапамогуць. Толькі кантроль. І, калі сітуацыя будзе складацца так, як прагназуюць тыя вучоныя, — аж да адсялення.

**Прагноз: у зонах ля рэактара да 2060 года амерыцыю будзе ўдвая больш, чым цяпер усіх ізатопаў плутонію разам**

## Дзмітрый Паўлаў: Увесь плутоній выпаў на закрытай тэрыторыі

«Заканадаўства змяняць можна і трэба, — кажа начальнік упраўлення рэабілітацыі пацярпелых тэрыторый Дэпартамента па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай АЭС Дзмітрый Паўлаў. — Але спачатку трэба ацаніць мэтазгоднасць. У нас увесь плутоній выпаў на закрытай тэрыторыі, у запаведніку, куды мы не пускаем ні турыстаў, ні пешыя групы. Навошта нормы, якія прымяняюцца да гэтай тэрыторыі, пашыраць на ўсю краіну?

Так, у запаведніку ёсць праблема: ядзернае паліва падчас выбуху выпала ў выглядзе дысперсных часцінак. І можна падчапіць гэтую часцінку на чобат і несці ў любы бок. Таму бывае сітуацыя, калі ў адным пункце радыяцыйны фон нармальны, а праз пяць метраў — вышэйшы ў сотні разоў».

Але праблема з амерыцыем, лічыць спадар Паўлаў, уздымаецца штучна: «Ніхто чамусьці не супастаўляе тэрыторыі пашырэння амерыцыю і самаачышчэння глебы ад цэзію і стронцыю — паглядзіце, якая там будзе розніца ў плошчах. Украіна і Расія зайздросцяць нам, што мы не кінулі гэтыя тэрыторыі. У нас няма столькі зямлі, колькі ў Расіі, каб можна было іх кінуць. Там людзі жывуць, працуюць. Як можна атрымліваць там чыстыя прадукты? Напрыклад, уносяцца ўгнаенні, яны падмяняюць сабой цэзій, які ёсць у глебе».

### Як вымяраецца ўзровень стронцыю ў малацэ

Таксама Дзмітрый Паўлаў згадзіўся пракаментаваць гучную справу з малаком беларускай фермы за 45 км ад Чарнобыля. У тым малацэ, па меркаванні журналістаў *Associated Press*, было выяўлена дзесяціразовае перавышэнне ўтрымання стронцыю-90.

Даследаванне таго малака, патлумачыў Д.Паўлаў, рабілася на прыладзе МКС-АТ1315 вытворчасці беларускага прадпрыемства «Атамтэх». Для вызначэння ўтрымання кожнага з радыеактыўных ізатопаў трэба іначай рыхтаваць пробу. Найпрасцейшы аналіз — на цэзій-137. Для яго дастаткова літра вадкага малака, робіцца такі аналіз 30 хвілін.

Аналіз на стронцый патрабуе спецыяльнай падрыхтоўкі пробы. Па-першае, малака мае быць не менш за тры літры. Спачатку яно ўпарваецца на працягу пяці дзён — яго прапускаюць праз спецыяльны фільтр. Потым сухое рэчыва, якое застаецца на фільтры, спальваюць. І з трох літраў малака выходзіць пару дзясяткаў грамаў спаленага рэчыва. У ім прылада вызначае ўзровень утрымання стронцыю, а пасля з дапамогай разліковых табліц будуецца прапорцыя, якая паказвае ўтрыманне радыенукліду ў зыходных трох літрах малака.

Аналіз на стронцый проста не праводзіўся, але ў пратаколе вымярэння, які атрымалі на рукі журналісты, прылада аўтаматычна выдала лічбы па ўсіх магчымых на ёй вымярэннях. Па стронцыю-90 і калію-40 гэта лічбы адвольныя, цалкам выпадковыя, тлумачыць Д.Паўлаў.



**Гама-бэтаспектрометр МКС-АТ1315.**

Падрыхтаваў Андрэй Скурко

# КДБ арыштаваў дзясяткі кватэр у «доме Чыжа», у тым ліку жыллё трэнера фрыстайлістаў Мікалая Казекі

Камітэт дзяржаўнай бяспекі працягвае расследаванне крымінальнай справы да бізнэсмена Юрыя Чыжа і ягонай кампаніі «Трайпл».

Як стала вядома «НН», у яго рамках былі арыштаваныя актывы «Трайпла». Пастанова аб накладанні арышту была вынесена 28 сакавіка 2016 года.

Адзін з актываў — знакаміты «дом Чыжа» каля Траецкага прадмесця. У ім засталіся непрададзенымі 27 кватэр — ад аднапакаёвак плошчай 55м² да апартаментаў плошчай каля 300 м².

Гэтыя кватэры былі ў закладзе беларускіх банкаў. Нерухомасць дазваляла Чыжу атрымліваць крэдыты. Выглядае, што аддаваць іх своечасова ён не мог.

Напрыклад, у верасні 2013 года «Трайпл» адкрыў у «Белінвестбанку» крэдытную лінію на $10 мільёнаў. Грошы мусілі быць вернутыя да 31 снежня 2015 года. Аднак за дзень да сканчэння тэрміну Чыжу ўдалося перападпісаць дамову — ён абавязаўся сплаціць $10,2, але ў пачатку 2017 года.

Банк ВТБ выдаў Чыжу пад заклад нерухомасці 7,6 млн еўра, а іншай дамовай — яшчэ $3 мільёны.

Амаль усе арыштаваныя кватэры не мелі гаспадароў і па паперах яшчэ належалі «Трайплу». Адзінае выключэнне — трэнер фрыстайлістаў Мікалай Казека і яго жыллё.

Мікалай Казека — гэта той самы трэнер, вучні якога заваявалі на зімовых Алімпіядах шэсць медалёў, у тым ліку тры залатыя. Некаторыя з іх, Ала Цупер і Антон Кушнір, атрымалі кватэры ў доме «Ля Траецкага» ў падарунак ад Юрыя Чыжа. А для іх трэнера было вырашана зрабіць зніжку.





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Доўгі час жыллё ў «доме Чыжа» прадавалася па $3000 за квадратны метр. Праз крызіс цэны на нерухомасць абваліліся, і «Трайпл» знізіў цану на рэшту непрададзеных кватэр да $2000.

Але для Мікалая Казекі летась было зроблена выключэнне. Чыж пагадзіўся прадаць яму кватэру плошчай 105 квадратных метраў у растэрміноўку ўсяго па $1000 за метр. Трэнер мусіў канчаткова выплаціць грошы да сярэдзіны 2018 года. Да таго часу праваўласнікам заставаўся «Трайпл». Калі КДБ заняўся маёмасцю «Трайпла», пад арышт трапіла і кватэра Казекі.

**Ягор Марціновіч**

## Мінская міліцыя абнародавала сваю версію здарэння ў метро «Пятроўшчына»

Відэа здарэння 28 красавіка выклікала шырокі розгалас у сацыяльных сетках. Мінакі абураліся паводзінамі міліцыянта, які кулакамі выганяў з падземнага перахода жабрака з сабакам.

У адказ ГУУС Мінгарвыканкама апублікавала відэа з камеры назірання і сваю версію падзеяў. Паведамляецца, што ў 11.26 да сяржанта міліцыі, які дзяжурыў у метро, звярнуліся грамадзяне. Яны нібыта папрасілі выправадзіць з падземнага перахода «неахайнага грамадзяніна, які займаецца жабраваннем».

Міліцыянт правёў яго ў пакой міліцыі для праверкі па базах уліку. Высветлілася, што мужчына зарэгістраваны ў Гродзенскай вобласці, аднак даўно займаецца бадзяжніцтвам у сталіцы. Па звестках міліцыі, мужчына шэсць разоў асуджаны па крымінальных артыкулах (пераважна за крадзяжы), а таксама 18 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці (за п'янства, хуліганства, курэнне ў забароненых месцах, абразу грамадзян). Міліцыянт правёў з ім прафілактычную гутарку і праз 20 хвілінаў адпусціў.

Праз тры гадзіны таму ж міліцыянту паведамілі, што ў падземным пераходзе спіць п'яны мужчына, якім аказаўся той самы жабрак. «Падышоўшы да яго, ён разбудзіў яго і папрасіў пакінуць падземны пераход. Нягледзячы на працяглыя ўгаворы, мужчына просьбу праваахоўніка праігнараваў. Больш за тое, пачаў абурацца, лаяцца на міліцыянта, правакуючы канфліктную сітуацыю і прыцягваючы ўвагу навакольных. Бачачы агрэсіўныя паводзіны мужчыны, сяржант прыняў рашэнне паўторна даставіць яго ў пакой міліцыі, аднак сустрэў супраціў з боку правапарушальніка. Пераадольваючы супраціў, праўныя дзеянні, міліцыянт быў вымушаны прымяніць сілавы прыём, пры гэтым прытрымліваючы мужчыну за плячо, каб пазбегнуць атрымання ім траўмаў», — паведамляецца ў прэс-рэлізе міліцыі.

У інтэрнэце людзей абурыла, што міліцыянт біў немаладога чалавека. На відэа бачна, як за чалавека ўступілася жанчына ў пераходзе.

**УШ**

## Штогадовае «сыходжанне Дабрадайнага агню» ў Ерусаліме многія лічаць шарлатанствам

У Ерусаліме напярэдадні Вялікадня штогод «сыходзіць» Дабрадайны агонь. Дабрадайным яго называюць, бо, як лічыцца, ён з'яўляецца з нічога.

Агонь сыходзіць у Кувуклії ў храме Труны Гасподняй у Вялікую суботу.

Кувуклія — капліца на месцы Труны Гасподняй. (Паводле падання, Ісуса Хрыста пахавалі ў пячоры, перш чым ён уваскрос з мёртвых.)

Менавіта тут, як паведамляецца, пасля напружаных малітваў патрыярха Іерусалімскага Феафіла Дабрадайны агонь сышоў напярэдадні праваслаўнага Вялікадня.

Яго чаканне заўсёды звязана з трымценнем і перажываннямі вернікаў. Самаўзгаральны агонь выносяць з пячоры і перадаюць вернікам. Тыя ад яго запальваюць свае традыцыйныя звязкі з 33 свечак.

Для вернікаў важна, што агонь менавіта «сыходзіць», бярэцца з нічога, а не запальваецца. Каб засведчыць гэта, усе дзеянні патрыярха сабраны ў складаную цырымонію. Дзверы Кувуклії апячатваюць вялікай васковай пячаткай.

Тым не менш многія дзеячы царквы крытыкуюць гэтае вераванне. На іх думку, у Ерусаліме штогод адбываецца шарлатанства на найвышэйшым узроўні. Насамрэч, агонь запальвае сам патрыярх.

Крытыкі культу «Дабрадайнага агню» асуджаюць Іерусалімскую царкву, што ідзе на такі падман дзеля таннага прыцягнення ў сваю веру.

**СГ**



# У Паставах вучняў «пераканалі» не здаваць беларускую мову на экзаменах

Гэта адбылося ў Пастаўскай сярэдняй школе №1. Пра гэты факт рэдакцыі «Вестак» паведамілі чытачы з Паставаў.

Афіцыйная прычына — экзамен па роднай мове не ўкладаецца ў графік.

Каб высветліць сітуацыю, мы патэлефанавалі намесніку дырэктара па вучэбнай частцы Наталлі Ярынскай. Наталля Юр'еўна сказала «Весткам», што дзяцей ніхто да гэтага не змушаў, яны добраахвотна перайшлі на рускую мову:

— Гэта было абсалютна не так. Адзін чалавек выбраў (экзамен па мове — З.Л.) у адным класе і два чалавекі ў іншым класе. Але паколькі экзамены ў адзін і той жа дзень супадаюць з выпускным вечарам, то мы проста запрасілі іх і сказалі ім: «Вы маеце права, гэта ваш выбар, мы вас не прымушаем, але самі падумайце і скажыце сваё рашэнне: зможаце вы перайсці на рускую мову, гэта не супярэчыць вашым пажаданням? Калі вы згаджаецеся, то напішыце, калі ласка, заяву, і мы будзем пераробліваць расклад». Яны прынеслі заявы, ніхто іх не змушаў, бо ім самім так лепш, каб у іх былі дні на падрыхтоўку.

Наогул, гэту сітуацыю Наталля Ярынская назвала падставай. Яна прапанавала нават апытаць вучняў і бацькоў, маўляў, ніхто нікога не змушаў.

Канечне, завучу можна паверыць, але ёсць некалькі «але». Чамусьці ў такіх сітуацыях амаль заўсёды крайняй аказваецца беларуская мова. Ну і тое, як у нас усё робіцца добраахвотна, тлумачыць нікому не трэба. У нас «па просьбе працоўных» і цэны павышаюць, і пенсійны ўзрост, і суботнікі добраахвотныя праводзяць.

**Зміцер Лупач, westki.info**

# «Я не змагу адпрацаваць тут год!» — крык душы навучэнца, якому пагражае размеркаванне на МАЗ

18-гадовы Аляксандр праходзіць практыку ў адным з цэхаў сталічнага МАЗа. Улетку, пасля практыкі, хлопца чакае размеркаванне, і больш за ўсё ён баіцца, што год адпрацоўкі яму прыйдзецца правесці на гэтым жа заводзе.

Аляксандр — навучэнец адной з вучэльняў Мінска. Хлопец атрымлівае спецыяльнасць электраманцёра. Аб сваім выбары хлопец ужо шкадуе.

Аляксандр: «Перад практыкай нам сказалі, што будзе некалькі варыянтаў, у тым ліку «Атлант» — трапіць на яго прэстыжна, — а таксама МТЗ і МАЗ».

Усю групу Аляксандра размеркавалі на МАЗ.

Незадаволеныя ўсе навучэнцы, не толькі Аляксандр: «Займаемся абы-чым. Калі было холадна — прыбіралі лёд, раскідвалі пясок. Вось нядаўна вешалі фіранкі на вокны». Што тычыцца электрыкі, то ані вучобы, ані практыкі амаль няма.

«Сядзіш у гэтым пакойчыку для электрыкаў, слухаеш мацюкі рабочых, задыхаешся ад дыму: хоць курыць там забаронена, але кураць увесь час. Глядзіш на гэты бруд паўсюль і адчуваеш, што проста больш не можаш там знаходзіцца».

«Мне здаецца, ніхто нават не ўяўляе, як там людзі існуюць, — кажа Аляксандр. — Можа, для іншых тыя ўмовы — гэта нармальна, але я быў у шоку. Брудная раздзявальня, ламаныя шафкі. У душы святло то гарыць, то не гарыць, гарачай вады часцей за ўсё няма. Прытым што ў цэху шкодныя пары і пасля працы трэба мыцца абавязкова. Нават калі зловіш гарачую ваду — то ў самой распранальні холадна, акно то разбіта, то не зачыняецца.

Мужыкі працуюць нармальныя.

Алкаголь на тэрыторыю пранесці цяжка, але п'яных я часам бачыў. Сваім становішчам рабочыя не задаволеныя: заробкі малыя. Рабочыя пастаянна скардзяцца адзін аднаму на жыццё, на заробкі, на начальства, на дзяржаву.

Работа то ідзе, то спыняецца. За два месяцы, што я тут, наш цэх два разы спынялі на некалькі дзён. Кажуць, што ў маі ўвогуле ўвесь завод спыняць на 10 дзён.

Яшчэ 26 красавіка ў ліцейным цэху загінуў рабочы. Я не ведаю, хто там вінаваты, але ведаю, што рабочы выконваў сваю звычайную працу. У яго засталося трое дзяцей. Такія выпадкі, ведаеце, таксама не дадаюць аптымізму.

Заставацца працаваць на МАЗе не хоча амаль ніхто з аднагрупнікаў. І я таксама не хачу. А варыянтаў фактычна няма — калі я сам не знайду месца для размеркавання, то траплю на МАЗ. А месца знайсці амаль немагчыма. Каму патрэбен 18-гадовы электрык без досведу? Тым больш што мяне і не навучылі амаль нічому... А калі я ўсё ж траплю на МАЗ і мяне звольняць ці я адмоўлюся — прыйдзецца выплаціць 25 мільёнаў дзяржаве, за тое што я вучыўся. Я не ведаю, што мне рабіць далей», — кажа Аляксандр.

**УШ**

*АУДИТОР - ИНДИВИДУАЛЬНЫЙ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЬ*
*КОВЕЛЬ СВЕТЛАНА ВЛАДИМИРОВНА*
Квалификационный аттестат аудитора №0001281
выдан Министерством финансов Республики Беларусь 15.11.2005г.
220114 Республика Беларусь, г. Минск, ул. Филимонова, д.39, кв.70
УНП 191582420
р/с 3013109887006 в ОАО «БАНК БЕЛВЭБ», код 226
тел: 8-029-6553306

**АУДИТОРСКОЕ ЗАКЛЮЧЕНИЕ**
**по бухгалтерской отчетности**
**Частное унитарное предприятие «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс»**
**за период с 01.01.2015г. по 31.12.2015г.**

Исх. №3
«28» марта 2016г. г. Минск

**Директору Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» Меркуль Вмктории Артуровне, главному бухгалтеру Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» Кухновец Валентине Петровне**
**Реквизиты аудируемого лица: Частное унитарное предприятие «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс»**
**Местонахождение:** г.Минск, Лещинского, дом 14, офис 8, Республика Беларусь
**Сведения о государственной регистрации:** В Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей Республики Беларусь зарегистрировано 08.10.2014г. за №806000628
**УНП – 806 000 628**

**Аудитор - индивидуальный предприниматель Ковель Светлана Владимировна**
**Местонахождение:** ул. Филимонова, д.39, кв.70, 220114, г.Минск, Республика Беларусь.
**Сведения о государственной регистрации:** В Едином государственном регистре юридических лиц и индивидуальных предпринимателей Республики Беларусь зарегистрировано 04.04.2011г. за №191582420.
**УНП 191 582 420.**

Я провела аудит прилагаемой бухгалтерской отчетности Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» состоящей из:

- бухгалтерского баланса на 31.12.2015;
- отчета о прибылях и убытках, отчета об изменении собственного капитала, отчета о движении денежных средств за год, закончившийся на указанную дату;
- примечаний к бухгалтерской отчетности.

**Обязанности руководства аудируемого лица по подготовке бухгалтерской отчетности**

Руководство Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» несет ответственность за подготовку и представление бухгалтерской отчетности в соответствии с законодательством Республики Беларусь по бухгалтерскому учету и отчетности и организацию системы внутреннего контроля, необходимой для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, допущенных вследствие недобросовестных действий или ошибок.

**Обязанности аудитора-индивидуального предпринимателя**

Я несу ответственность за выраженное мною аудиторское мнение о достоверности бухгалтерской отчетности, основанное на результатах проведенного аудита.

Я провела аудит в соответствии с требованиями Закона Республики Беларусь от 12 июля 2013 года № 56-З «Об аудиторской деятельности» и национальных правил аудиторской деятельности, которые обязывают меня соблюдать нормы профессиональной этики, планировать и проводить аудит таким образом, чтобы обеспечить достаточную уверенность относительно наличия либо отсутствия существенных искажений в представленной бухгалтерской отчетности.

В ходе аудита мною были выполнены аудиторские процедуры, направленные на получение аудиторских доказательств, подтверждающих значения показателей бухгалтерской отчетности Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс», а также другую раскрытую в ней информацию. Выбор аудиторских процедур осуществлялся на основании профессионального суждения с учетом оценки риска существенного искажения бухгалтерской отчетности в результате ошибок или недобросовестных действий. При оценке риска существенного искажения бухгалтерской отчетности мною рассматривалась система внутреннего контроля Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс», необходимая для составления бухгалтерской отчетности, не содержащей существенных искажений, с целью планирования аудиторских процедур, соответствующих обстоятельствам аудита, но не с целью выражения мнения относительно эффективности функционирования этой системы.

Аудит также включал оценку применяемой учетной политики, обоснованности учетных оценок и общего содержания бухгалтерской отчетности Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс».

Полагаю, что в ходе аудита мною были получены достаточные и надлежащие аудиторские доказательства, которые могут являться основанием для выражения аудиторского мнения.

**Аудиторское мнение**

По моему мнению, бухгалтерская отчетность Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс», сформированная в соответствии с требованиями законодательства Республики Беларусь по бухгалтерскому учету и отчетности, достоверно во всех существенных аспектах отражает финансовое положение Частного унитарного предприятия «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» на 31 декабря 2015г. и результаты его финансово-хозяйственной деятельности за 2015г., при этом совершенные Частным унитарным предприятем «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» финансовые (хозяйственные) операции во всех существенных отношениях соответствуют законодательству.

**Аудитор-индивидуальный предприниматель** ____________ **С.В. Ковель**

М.П.

«28» марта 2016г.
(Дата подписания аудиторского заключения)

**БУХГАЛТЕРСКИЙ БАЛАНС**
**На 31 декабря 2015 года**

| | |
|---|---|
| Организация | УП «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» |
| Учетный номер плательщика | 806000628 |
| Вид экономической деятельности | страховое посредничество |
| Организационно-правовая форма | Частное предприятие |
| Орган управления | Юридическое лицо без ведомственной подчиненности |
| Единица измерения | млн.руб. |
| Адрес | г.Минск, ул.Лещинского,14,8 |

| Активы | Код строки | На 31 декабря 2015 года | На 31 декабря 2014 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **I. ДОЛГОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ** | | | |
| Основные средства | 110 | 56 | - |
| Вложения в долгосрочные активы | | 140 | - |
| **ИТОГО по разделу I** | **190** | **56** | - |
| **II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ** | | | |
| Расходы будущих периодов | 230 | 1 | - |
| Краткосрочная дебиторская задолженность | 250 | 195 | 77 |
| Краткосрочные финансовые вложения | 260 | | - |
| Денежные средства и их эквиваленты | 270 | 820 | 364 |
| **ИТОГО по разделу II** | **290** | **1 016** | **441** |
| **БАЛАНС** | **300** | **1 072** | **441** |
| **Собственный капитал и обязательства** | **Код строки** | **На 31 декабря 2015 года** | **На 31 декабря 2014 года** |
| **1** | **2** | **3** | **4** |
| III. СОБСТВЕННЫЙ КАПИТАЛ | | | |
| Уставный капитал | 410 | 333 | 333 |
| Резервный капитал | 440 | | 4 |
| Добавочный капитал | 450 | 15 | - |
| Нераспределенная прибыль (непокрытый убыток) | 460 | 201 | 47 |
| **ИТОГО по разделу III** | **490** | **549** | **384** |
| **IV. ДОЛГОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА** | | | |
| Долгосрочные обязательства по лизинговым платежам | | 520 | - |
| Доходы будущих периодов | | 540 | - |
| **ИТОГО по разделу IV** | **590** | - | - |
| **V. КРАТКОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА** | | | |
| Краткосрочные кредиты и займы | 610 | | 15 |
| Краткосрочная кредиторская задолженность | 630 | 368 | 42 |
| В том числе: поставщикам, подрядчикам, исполнителям | 631 | 40 | 14 |
| по налогам и сборам | | 633 | 23 |
| по социальному страхованию и обеспечению | 634 | 13 | 4 |
| по оплате труда | 635 | 32 | 11 |
| прочим кредиторам | | 638 | 260 |
| Обязательства, предназначенные для реализации | 640 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 650 | 155 | - |
| **ИТОГО по разделу V** | **690** | **523** | **57** |
| **БАЛАНС** | **700** | **1 072** | **441** |

Руководитель В.А.Меркуль

Главный бухгалтер В.П.Кухновец

**ОТЧЕТ**
**о прибылях и убытках**
**за январь-декабрь 2015 года**

| | |
|---|---|
| Организация | УП «Страховой брокер «Страховая экспертиза плюс» |
| Учетный номер плательщика | 806000628 |
| Вид экономической деятельности | страховое посредничество |
| Организационно-правовая форма | Частное предприятие |
| Орган управления | Юридическое лицо без ведомственной подчиненности |
| Единица измерения | млн.руб. |
| Адрес | г.Минск, ул.Лещинского,14,8 |

| Наименование показателей | Код строки | За январь-декабрь 2015 года | За январь-декабрь 2014 года |
|---|---|---|---|
| **1** | **2** | **3** | **4** |
| Выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 010 | 1 582 | 143 |
| Себестоимость реализованной продукции, товаров, работ, услуг | 020 | (856) | (111) |
| Валовая прибыль (010 — 020) | 030 | 726 | 32 |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг (030 — 040 — 050) | 060 | 726 | 32 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 070 | 27 | - |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 080 | (27) | - |
| «Прибыль (убыток) от текущей деятельности (± 060 + 070 — 080)» | 090 | 726 | 32 |
| Доходы по инвестиционной деятельности | 100 | 25 | 4 |
| проценты к получению | 103 | 25 | 4 |
| Доходы по финансовой деятельности | 120 | 63 | 23 |
| В том числе: курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 121 | 63 | 23 |
| Расходы по финансовой деятельности | 130 | (69) | (1) |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 132 | (69) | (1) |
| **Наименование показателей** | **Код строки** | **За январь-декабрь 2015 года** | **За январь-декабрь 2014 года** |
| **1** | **2** | **3** | **4** |
| Прибыль (убыток) от инвестиционной и финансовой деятельности (100 - 110 + 120 - 130) | 140 | 19 | 26 |
| Прибыль (убыток) до налогообложения (± 090 ± 140) | 150 | 745 | 58 |
| Налог на прибыль | 160 | (134) | (11) |
| Изменение отложенных налоговых активов | 170 | - | - |
| «Чистая прибыль (убыток) (± 150 — 160 ± 170 ± 180 — 190 — 200)» | 210 | 611 | 47 |
| Совокупная прибыль (убыток) (± 210 ± 220 ± 230) | 240 | 611 | 47 |

Руководитель В.А.Меркуль
Главный бухгалтер В.П.Кухновец

# Нашэсце гіганцкіх слімакоў пад Мінскам



Апошнія пару гадоў у лесапалосах пад Мінскам пачаў заўважаць гіганцкіх слімакоў, а сёлета здаецца, што пачалося іх сапраўднае нашэсце. На выхадных вырашыў пашпацыраваць уздоўж чыгункі, што ля мястэчка Гатава. Гляджу: перапаўзае мне дарогу адзін такі «звер». Трохі збочыў са сцяжынкі — а там іх як грыбоў у лесе. У некаторых месцах на квадратны метр па некалькі штук!

Здаецца, гэта вінаградны слімак. Было б добра спытаць каментарый на гэты конт у нашых заолагаў. Магчыма, праз пацяпленне клімату гэты від, што распаўсюджаны ў Паўднёвай і Цэнтральнай Еўропе, расяліўся й на шыраце беларускай сталіцы.

Дарэчы, у Еўропе, у прыватнасці ў Францыі, гэты слімак — далікатэс. Сам калісь каштаваў яго, калі гасцяваў у французаў. Чуў, што некалькі гадоў таму пад Берасцем адкрылі ферму, на якой вырошчвалі гэтых істот і экспартавалі ў Еўропу. А тут, пад Мінскам, гэты экспартны тавар проста поўзае пад нагамі. Збірай — і прадавай гурманам-еўрапейцам.

**Алесь Герасіменка, жыхар мястэчка Гатава, Мінскі раён**

**Рашэнне мясцовых чыноўнікаў: «Пераўтварыць «Дуб 1» у «Дуб №1»**

Дзеянні мясцовых уладаў часам здзіўляюць сваім бюракратызмам. Чытаю рашэнне Астравецкага райвыканкама №124 ад 14 сакавіка 2016 года — і не магу не смяяцца.

Чыноўнікі пераўтвораюць і пераймяноўваюць… дрэвы:

«У сувязі са зменай відаў, межаў, рэжымаў аховы і выкарыстання помнікаў прыроды мясцовага значэння пераўтварыць:

1.1. помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб 1» у батанічны помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб № 1»;

1.2. помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб 2» у батанічны помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб № 2»;

1.3. помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб 3» у батанічны помнік прыроды мясцовага значэння «Дуб № 3».

Напэўна, пасля «пераўтварэння» зменіцца статус аховы. Але камусьці ж прыйшло ў галаву дадаваць у назву значкі!

## У Глыбокім у сквер Перамогі прыцягнулі яшчэ адзін БТР, а ў дадатак — яшчэ і гармату



У скверы Перамогі, што ў цэнтры Глыбокага (Віцебская вобласць), пахаваныя савецкія жаўнеры, якія палеглі ў пачатку ліпеня 1944 года за вызваленне Глыбокага. Да сярэдзіны 1990-х тут стаялі дзве бетонныя скульптуры: статуя жанчыны з вянком і статуя жаўнера са сцягам ля каленяў. Кампазіцыя ўвасабляла смутак па загінулых. Так! Тут насамрэч — могілкі.

Гадоў пятнаццаць таму бетонныя статуі знеслі... Пачалася мілітарызацыя сквера. Паставілі бронзавых: жаўнера з вінтоўкай і партызана з ППШ. Неўзабаве, побач злева, з'явіўся бронзавы афганец з АКМ. Гэта памяць аб глыбоцкіх мальцах, якія загінулі далёка ад радзімы.

Але мілітарызацыя гэтага сквера не скончылася. Гады тры таму паставілі ў скверы БМД (баявую машыну дэсанта). Пакуль усе доўга гадалі, блага гэта ці добра, ужо прывыклі. Як сто гадоў стаяла!

Аднак цяпер, 29 красавіка, да Дня Перамогі, арсенал сквера дапоўніўся яшчэ двума новымі рарытэтамі — БТРам і гарматай. Праўда, у адрозненне ад БМД, які дулам павернуты на захад, гэты БТР дулам — на усход.

Новае папаўненне — блага ці добра? Народ жа ў першы дзень ацаніў: прыходзяць, нават сем'ямі, робяць сэлфі. Магчыма, ацэняць і турысты, якія сюды часта заязджаюць. Для поўнай калекцыі, напэўна, не хапае бронецягніка! Жарт! Месца тут яму мала...

**Уладзімір Скрабатун**

**Стан рэчаў**

## «Каменны век скончыўся не таму, што скончыліся камяні»



«Каменны век скончыўся не таму, што скончыліся камяні». Гэтае выказванне тагачасны міністр нафты Саудаўскай Аравіі Шэйх Ямані зрабіў у 2000 годзе. Яно тлумачыць логіку, якой Эр-Рыяд кіруецца цяпер.

Саудаўцы мяркуюць, што высокія цэны на вуглевадароды проста прывядуць да таго, што чалавецтва хутчэй разаўе новыя крыніцы энергіі.

Саудаўская Аравія мае гіганцкія разведаныя запасы паліва. І здабыча яго каштуе тут танна. Таму шэйхі маюць зацікаўленасць у тым, каб прадаць як мага больш нафты, пакуль яна трэба ў свеце. Іх не хвалюе, што ў кагосьці — вытворцаў сланцавай нафты ў Тэхасе ці венесуэльскіх чавістаў — здабыча нафты дарагая.

Вы хочаце, каб нафты на рынку было менш? Окей, кажуць яны, тады прадавайце менш вы.

Сапраўды, генерацыя электрычнасці з энергіі сонца, ветру робіцца ўсё больш дасканалая і таннее. А атамныя



электрастанцыі — усё больш абароненымі і бяспечнымі. Тым часам планета зрабіла скачок у энергазберажэнні. Новыя аўтамабілі сёння спажываюць удвая менш бензіну, чым іх аналагі 20 гадоў таму. Плюс развіццё электрамабіляў. Плюс паступова людзі падступаюцца да сакрэту зацугляння тэрмаядзернай рэакцыі. Нечаканыя вынікі можа даць вывучэнне энергіі кіраванага фотасінтэзу.

Саудаўская Аравія лічыць або ведае, што неўзабаве надыдзе той момант, калі нафта і газ стануць не так ужо і патрэбнымі чалавецтву, як ужо сёння стаў не так ужо запатрабаваны вугаль. І Эр-Рыяд хоча да таго моманту зарабіць максімум.

Беларусам, якія не маюць уласных паліўных рэсурсаў, ёсць над чым задумацца ў такой сітуацыі. Ужо сёння на Парку высокіх тэхналогій краіна зарабляе сувымерна з нафтаперапрацоўчым заводам. Прытым што за парк нікому не трэба кланяцца.

**Андрэй Дынько**



## Уладзіміру Цэслеру — 65

Вядомы беларускі мастак і дызайнер Уладзімір Цэслер у суботу адзначыў круглую дату. Гэта ён прыдумаў дзясяткі смешных плакатаў. Але гэта таксама ён прыдумаў «Птушку Свабоду», якая масава разышлася на налепках у 2006 годзе. І ягоная ж фантазія прыдумала шмат якія з непаўторна-беларускіх тэатральных плакатаў, якія вы бачыце на вуліцах сталіцы Беларусі.





# Ці забароняць у Піцеры бел-чырвона-белыя сцягі?

6 мая ў Маскве і Санкт-Пецярбургу пачынаецца 80-ы чэмпіянат свету па хакеі. Удзел у турніры зноў возьме зборная Беларусі.

Наша каманда будзе гуляць у групе B, сустрэчы пройдуць у спартыўным комплексе «Юбілейны» (умяшчальнасць 7300 гледачоў).

Зборная Беларусі пад кіраўніцтвам канадца Дэйва Льюіса сабрала амаль усіх наймацнейшых. Не зможа дапамагчы камандзе толькі Міхаіл Грабоўскі, клуб якога яшчэ змагаецца за Кубак Стэнлі, а таксама Канстанцін Кальцоў.



Сібірак Лайка — талісман чэмпіянату.

Наша каманда заняла другое месца ў неафіцыйным заліку так званага «Еўратура», прапусціўшы наперад толькі фінаў. Добра зарэкамендаваў сябе ў атацы Сцяпанаў. Падцягнуўся з Амерыкі Кірыла Гатавец, які знаходзіцца за адзін крок ад траплення ў НХЛ.

У складзе нацыянальнай каманды будзе ажно тры натуралізаваныя канадцы: брамнік Кевін Лаланд, а таксама нападнікі Джэф Плат і Шарль Лінгле.

Летась на чэмпіянаце ў Чэхіі беларусы былі сёмымі. Цяпер Дэйв Льюіс ставіць задачу трапіць у паўфінал турніру — раней нашыя не дасягалі такіх вяршынь.

Варта адзначыць: не самы спрыяльны каляндар склаўся для Беларусі. Тры першыя гульні нашы правядуць з фаварытамі: Фінляндыяй, ЗША і Канадай. У выпадку трох паразаў нялёгка будзе перанесці ў псіхалагічным плане.

Заўзятары заўсёды на сусветных чэмпіянатах падтрымліваюць нашу каманду з бел-чырвона-белымі сцягамі, так было летась у Остраве і Празе, так было і раней. Можна быць пэўнымі, што прыедуць такія і ў Піцер. Цікава, ці дазволяць беларусам у Расіі выкарыстоўваць гістарычныя сімвалы?

**Зміцер Панкавец**

**Расклад гульняў**

6 мая: Фінляндыя — Беларусь (пачатак а 20:15)

7 мая: Беларусь — ЗША (20:15)

9 мая: Беларусь — Канада (16:15)

11 мая: Славаччына — Беларусь (16:15)

13 мая: Германія — Беларусь (20:15)

14 мая: Венгрыя — Беларусь (16:15)

17 мая: Беларусь — Францыя (16:15)

# Мужчына падпаліў сябе ў цэнтры Мінска

Увечары 28 красавіка на Кастрычніцкай плошчы сталіцы 60-гадовы мужчына абліўся гаручай вадкасцю і падпаліў сябе. Яго выратавалі двое амапаўцаў, якія дзяжуралі на плошчы.

Яны здолелі збіць полымя. Мужчыну даставілі ў бальніцу ў цяжкім стане.

Следчы камітэт паведаміў, што на месцы здарэння знайшлі і перадсмяротную запіску.

Як аказалася, мужчына — ураджэнец вёскі Мялешкавічы Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. Ён пражываў у Калодзішчах Мінскага раёна. Ён быў жанаты, у 2007 годзе ў яго нарадзіўся сын. Сямейная ідылія доўжылася нядоўга: у кастрычніку 2010 года муж і жонка развяліся, а дзіця засталося з маці. Суд вызначыў парадак зносін бацькі з сынам, аднак у снежні 2011 года ён быў зменены. Да дасягнення дзіцем сямі гадоў мужчыну дазволілі бачыцца з сынам толькі ў прысутнасці маці. Ён спрабаваў абскардзіць гэта ў судзе, але ўсё было безвынікова.

Калі дзіцяці споўнілася сем гадоў, былая жонка зноў звярнулася ў суд з патрабаваннем абмежаваць зносіны бацькі з сынам. Яна матывавала гэта тым, што былы муж вядзе сябе нягодна, напрыклад, тройчы прыходзіў да дзіцяці п'яны і даваў сыну прадукты, ужываць якія забаранілі хлопчыку дактары. Жанчына прасіла падоўжыць парадак зносін дзіцяці з экс-мужам у яе прысутнасці да дасягнення хлопчыкам дзесяці гадоў. Мужчына ў сваю чаргу скардзіўся, што былая жонка забараняе яму бачыць сына.

У выніку суд адмовіў жанчыне ў задавальненні патрабаванняў аб абмежаванні права былога мужа на зносіны з дзіцем. Патрабаванні мужчыны суд задаволіў часткова і вызначыў канкрэтны парадак удзелу бацькі ў выхаванні дзіцяці. Цяпер мужчына меў права мець зносіны з сынам у другую суботу кожнага месяца з 11.00 да 13.00 у сацыяльна-педагагічным цэнтры Першамайскага раёна Мінска ў прысутнасці педагога-псіхолага і без жонкі. Акрамя таго, бачыць дзіця ён мог кожную сераду з 18.30 да 20.00 у прысутнасці былой жонкі падчас наведвання паркаў, дзіцячых кавярань, крамаў і тэатраў.

Такі стан рэчаў мужчыну не задаволіў, і ён звярнуўся з наглядной скаргай у Вярхоўны суд, які вырашыў, што спрэчка паміж бацькамі была вырашана правільна. Пры гэтым псіхолагі выявілі, што ў сувязі з канфліктам між бацькамі дзіця знаходзіцца ў складаным псіхаэмацыйным стане.

Мужчына на дадзены момант знаходзіцца ў бальніцы. У яго дыягнаставалі глыбокія апёкі 75% цела. Стан яго стабільна цяжкі. Пры такіх апёках можна і не выжыць.

**Улад Швядовіч**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

## Мінская моладзь ціснулася ў новы фаст-фуд Texas Chicken, дзяцей прыйшлося ратаваць

1 мая ў Мінску адкрылася першая кавярня новай сеткі фаст-фуду *Texas Chicken*. У гонар адкрыцця была абвешчаная акцыя: з 12:30 па 13:00 той, хто набудзе хоць што-небудзь, атрымае 52 бясплатныя абеды на працягу года. Што там рабілася!

Нягледзячы на дождж, сабралася даўжэзная чарга. На ўваходзе зрабілася страшэнная цісканіна — работнікі кавярні выцягвалі з натоўпу дзяцей, каб тыя не пацярпелі.

Хлопцы, якім удалося атрымаць купоны на абеды, паведамілі, што стаялі ў чарзе з 10 гадзін раніцы.

**Мікіта Недаверкаў**

## Уладзімір Беражкоў знайшоў сабе новае месца працы па рэкамендацыі шэфа КДБ

Былы генеральны менеджар хакейнага «Дынама», экс-галоўны рэдактар «Прессбола» Уладзімір Беражкоў, што некалькі месяцаў правёў у СІЗА КДБ, на ўмовах дамовы падраду ўладкаваўся на працу ў Беларускую федэрацыю біятлона. Прапанову аб працаўладкаванні ён атрымаў ад кіраўніка БФБ (і шэфа КДБ) Валерыя Вакульчыка.

«Пакуль не маецца на ўвазе нейкая канкрэтная пасада. Хутчэй, я назваў бы гэта кірункам работы. Старшыня федэрацыі абазначыў шэраг задач, у тым ліку стратэгічных, перспектыўных, актуальных. У ліку, напрыклад, самых блізкіх — адзін сур'ёзны стартап. Гэта стварэнне ў Беларусі ўнікальнага медыцынскага цэнтра па рэабілітацыі спартсменаў. Гэты працэс я як менеджэр цяпер і курырую», — пракаментаваў новы этап сваёй кар'еры Уладзімір Беражкоў.

**pressball.by**




# Die Welt: Еўрапейскі цэнтрабанк пачаў вывад з абароту купюр 500 еўра

Не чакаючы прыняцця рашэння аб вывадзе з абарачэння купюр наміналам 500 еўра, Еўрапейскі цэнтральны банк (ЕЦБ) таемна распачаў іх знішчэнне, піша нямецкая газета *Die Welt*.

Пачынаючы са снежня 2015 года колькасць такіх банкнот у абарачэнні паступова памяншаецца.

Паводле звестак выдання, за тры апошнія месяцы колькасць такіх купюр паменшала амаль на 20 млн штук — з амаль 614 да 594 мільёнаў.

Іх паступовы вывад з абарачэння і знішчэнне могуць зацягнуцца на дзесяцігоддзі, сцвярджаецца ў публікацыі.




Лічыцца, што банкноты з самым высокім наміналам шырока выкарыстоўваюцца для разлікаў у крымінальным бізнэсе, напрыклад у наркагандлі або пры адмыванні грошай. Пасяджэнне рады кіраўнікоў ЕЦБ, на якім мяркуецца прыняць рашэнне аб вывадзе з абарачэння купюр наміналам 500 еўра, намечана на 4 мая.

Раней паведамлялася, што выдаткі на замену такіх купюр новымі банкнотамі меншага наміналу могуць каштаваць ЕС больш за 500 млн еўра.

Супраць гэтага кроку выступаюць цэнтрабанкі Германіі і Аўстрыі.

**СГ**

# Адкрыты ліст Аляксандру Лукашэнку

Шаноўны Аляксандр Рыгоравіч! Пішу Вам гэты ліст, а слёзы душаць і капаюць… А турбуе Вас Павел Савоська — былы старацель. Справа ў тым, што хутка сапраўдная вясна, а там лета, сенакос. А хто ж будзе дапамагаць Вам у касьбе, калі Юрый Чыж пад вартай? Мне і цяпер паўстае перад вачыма той мілы сэрцу здымак, дзе за вамі косіць Чыж, а за ім цугам яшчэ чалавек пяць. Такое мілае сэрцу відовішча...

А Валерый Вакульчык, дай Бог яму здароўя, падбіраецца і да іншых касцоў… Але тут адразу ж хачу Вам сказаць, што такія людзі, як Чыж, на дарозе не валяюцца. Вельмі таленавіты і працавіты чалавек! Не заплаціў там падатак, якісьці мільярд рублёў! Для яго гэта капейкі. Няхай следчыя падлічаць, колькі ён павінен, то заплаціць з лёгкасцю ў тры разы больш.

Зразумейце адно: Юрый Чыж хацеў мець невялічкі «загашнік», так, на ўсякі выпадак... Раптам спатрэбіцца грошы на куплю моцнага гульца ў мінскае «Дынама» ці яшчэ на што. Не для сябе ж ён прыхаваў гэтыя грошы. Вы зазавіце яго да сябе і проста спытайце: «Шаноўны спадар Чыж! Што ты хочаш? Яхту, то купі. Асабісты мець рахунак у швейцарскім банку, то пакладзі туды сотні дзве, а то і ўсе тры мільёны даляраў, краіна не збяднее, але больш не крадзі, а працуй да сёмага поту, усёк?!»

Аляксандр Рыгоравіч! Зразумейце адно: у нашай краіне павінна быць пяць-шэсць даляравых мільярдэраў! Гэтая акалічнасць будзе працаваць на імідж краіны. У Еўропе скажуць хвалёныя капіталісты: і ў Беларусі ёсць багатыры! Трэба мець з імі справу... А то мы тут увесь час думалі, што яны там лапцямі падкалотку хлябаюць, ажно не...

Але трэба пільна сачыць за іх фінансавымі справамі... Толькі падумаў хтосьці з іх украсці, а Вакульчык ужо пра гэта ведае. Вось так павінны нашы следчыя працаваць! А пасадзіць за краты — гэта апошняя справа! Тут вялікага розуму не трэба. Так што Юрыя Чыжа выратоўвайце.

## А хто ж будзе дапамагаць Вам у касьбе, калі Юрый Чыж пад вартай?

А наконт касьбы не турбуйцеся! Я былы старацель, то ўсё магу, тым больш што ўжо трэці год без працы. У мяне каса ў вёсцы дзевяціручка, а пакос ганю больш за два метры... Буду Вам на пяты наступаць. Падбяру яшчэ хлопцаў: грузчыкаў, бамжоў... Пакосіце хаця б раз з простым людам, паслухаеце, што яны Вам распавядуць пра сваё гаротнае жыццё, а гэта ўздыме яшчэ больш Ваш аўтарытэт, які і так даволі вялікі.

Яшчэ хачу сказаць некалькі слоў пра чыноўнікаў, якія займалі высокія пасады і папаліся на хабары. Правільна: за хабар трэба за краты, але тут ёсць адна філасофская акалічнасць... Якая? Зараз распавяду. Трымаць іх пад вартай у калоніі ўзмоцненага рэжыму не больш за шэсць месяцаў... Там трэба псіхолагам паназіраць за імі... Хто вельмі перажывае і прыносіць пакаянне, а да іх і святары прыходзяць, то выпускаць на волю раней. І не проста вызваляць, а даваць яшчэ больш высокую пасаду. Гучыць быццам бы парадаксальна, але калі разабрацца глыбей, то карысць для краіны будзе вялікая. Але гэта датычыць толькі тых чыноўнікаў, якія вельмі таленавітыя, вялікія арганізатары... І яны пасля таго, як пабывалі пад вартай, пахлябалі турэмнай баланды, будуць працаваць да сёмага поту! Зрабіў чалавек памылку, падбіў чорт узяць тыя даляры, гары яны сінім агнём, то з кім не бывае! Але ж трэба даць шанец чалавеку на выпраўленне. А то будзе гадоў дзесяць шыць вярхонкі ў лагеры, якая тут карысць для дзяржавы?!

Цяпер некалькі слоў пра Валерыя Вакульчыка. Ён і ягоная каманда прыносяць вялізную карысць для краіны. Прапаную кінуць чарговую зорку на пагоны Вакульчыка, а яшчэ прэмію ў сто тысяч даляраў. Узнагародзіць многіх і з яго каманды. Яны гэта даўно заслужылі. На гэтым і заканчваю, Аляксандр Рыгоравіч! Прабачце, калі што не так напісаў, бо маю за плячыма ўсяго пяць класаў горнай школы, якую скончыў у Ленінградзе.

**Павел Савоська, былы старацель, Мінск**

# Хто курыць, то сябе дурыць

«Розум дадзены чалавеку на тое, каб ён разумна жыў, а не на тое толькі, каб ён бачыў, што ён неразумна жыве», — пісаў у свой час рускі публіцыст В.Р. Бялінскі. Але ж…

Нягледзячы на тысячы паведамленняў ажно ад XVIII стагоддзя бясспрэчных доказаў толькі згубнага ўплыву на нашае здароўе курэння тытуню, многія людзі яго кураць. У гэтай непатрэбнай і шкоднай звычцы жыхары Беларусі — амаль што «лідары» ў Еўропе. Між тым, нагадваю, нашае здароўе на чвэрць залежыць ад стану навакольнага асяроддзя, у першую чаргу — паветра.

Курцы шкоду прычыняюць не толькі сабе, але і здароўю людзей, якія непасрэдна жывуць і працуюць разам з імі.

Зразумела, нельга курцам забараніць курыць, бо кожны сам гаспадар свайму здароўю, але ж яны не павінны пазбаўляць некурыльцаў магчымасці дыхаць чыстым паветрам. Ужо ўвесь свет усвядоміў, што на карысць усяго грамадства падобную цягу курцоў неабходна абмяжоўваць. У большасці краін Еўропы і Паўночнай Амерыкі з гэтай мэтай прынятыя і рэгулярна прымаюцца ўсё больш жорсткія абмежаванні курцоў пры энергічнай падтрымцы падобных мер насельніцтвам. У гэтым плане здзіўляюць і абураюць нейкія няўпэўненасць і асцярожнасць улад нашай рэспублікі. Хоць па гэтай праблеме ўжо добрых 10 гадоў гаворкі, толькі ў апошнія 1—2 гады былі прынятыя сціпленькія паўмеры па абмежаванні курэння ў грамадскіх месцах на ўзроўні некалькіх гарадоў. Да гэтай пары не з'явілася ніякай усеагульнай, рэспубліканскай, пастановы або ўказа па «абмежаванні несприяльнага ўздзеяння тытунекурэння». На тое заўсёды знаходзяцца «важкія» прычыны і абставіны.

Наркологі ўпэўненыя, што 7 з 10 заядлых курцоў здольныя пазбавіцца ад гэтай згубнай для сябе і шкоднай усяму грамадству звычкі, калі далікатна павышаць іх свядомасць і дасведчанасць. Пакуль жа, як адзначыў эканаміст Міхась Залескі, у Беларусі «сярэдняя сям'я выдаткоўвае на цыгарэты і алкаголь грошай болей, чым на здароўе».

**Генадзь Шэршань, доктар на пенсіі, Мінск**

# Футбольныя амбіцыі

Калі я прачытаў у газеце, што трэнеру зборнай па футболе паложаны аклад у 240 тысяч даляраў на год, то ў мяне вочы акругліліся. Вось гэта заробак! Нават трэнер палякаў мае на 40 тысяч даляраў менш. А зборная Польшчы — двухразовы бронзавы прызёр чэмпіянатаў свету, яна абыгрывала і Бразілію, і Англію, і іншыя моцныя каманды.

Возьмем апошнія дзве гульні нашай зборнай. Ну, мусіць, ніколі нашы не выйграюць у армян на іх полі ў Ерэване: не такі характар у іх, каб засмучаць сваіх заўзятараў.

А ў Чарнагорыі? Толькі два ўдары ў стойку варот выратавалі беларусаў ад смутнай паразы. І не віна тут Хацкевіча, што так гуляе зборная. Бо Беларусь не футбольная дзяржава. І месца яе ў сусветным рэйтынгу ў восьмай дзясятцы — заслужанае.

Так, у нас былі добрыя гульцы: Малафееў, Зарэмба, Алейнікаў, Глеб і іншыя. Але гэта былі адзінкі на фоне сярэдняй гульні зборнай. Такія факты футбольнага жыцця. А па гульні і заробак павінен быць.

У гэтым годзе вышэйшую лігу «раздзьмулі» да 16-ці каманд. Хіба ў нас насельніцтва 80 мільёнаў, як у Германіі? Футбольныя функцыянеры паціраюць рукі: будуць высокія заробатныя стаўкі, трэнеры будуць вандраваць з каманды ў каманду і абяцаць залатыя медалі ўсім ахвотным.

Аднаму сталічнаму трэнеру ў горадзе Брэсце нават не так даўно падарылі кватэру: бяры, нам не шкада, толькі выручай. Не выручыў.

Сёння толькі і размоваў, што аб эканоміі, аб здаровым сэнсе. На маю думку, хопіць беларусам і васьмі каманд у вышэйшай лізе. Ну хто навядзе парадак у футбольнай гаспадарцы краіны? Алімпійскі камітэт?

**Аляксей Будзько, Гродна**

# Год культуры. Але якой?

Піша Ніна Багінская.

2016 год быў абвешчаны Годам культуры. Увесь студзень у мяне былі добрыя адчуванні. На працягу 2015-га года ў мяне не ўзнікла аніякіх праблем. Нават спагнанне, што было прадугледжана судом Цэнтральнага раёна г. Мінска у памеры 3 млн 600 тысяч рублёў за ўдзел ва ўшанаванні памяці Міхася Жызнеўскага да ўгодак са дня смерці ля помніка Шаўчэнкі, было скасавана. І на 5-х угодках авіякатастрофы пад Смаленскам, калі грамадскасць выразіла спачуванне ў малітве ля Чырвонага касцёла, мяне затрымала міліцыя са сцягам, але да суда справа не дайшла і сцяг вярнулі. І калі ў навагоднюю ноч на 2016 год я ішла па праспекце ад Акадэміі навук да плошчы Незалежнасці з бел-чырвона-белым сцягам на радасць шматлікім мінакам і мяне міліцыянты не пакаралі, я была ўпэўнена, што ў Год культуры сцяг, накшталт герба «Пагоня», будзе абвешчаны ўладамі гістарычнай, культурнай каштоўнасцю.

І калі 18 студзеня на акцыі ў падтрымку прадпрымальнікаў на мяне быў складзены пратакол за «публічную демонстрацію флага», я была ўпэўнена, што караць мяне за сцяг усе аніхто не будзе. Эх… Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш. Год культуры. Але якой? Якая культура запануе ў Год культуры? У лютым мае добрыя адчуванні скончыліся.

Карнікі гаспадараць над культураю.

30 студзеня я прыйшла да Вярхоўнага суда падтрымаць маладых людзей, збітых у судзе Фрунзенскага раёна. Міліцыя зноў пачала складаць пратаколы. Мяне ў РУУС Ленінскага раёна ўжо не выклікалі — пратакол прыслалі па пошце, дзе зноў пачалі цкаванне за сцяг: «стояла с флагом бело-красно-белых цветов, чем нарушила установленный порядок». Суд Ленінскага раёна прысудзіў штраф — 25 базавых.

Тут міліцыянты з РУУСа Маскоўскага раёна схамянуліся, што не падалі на мяне ў суд, калі я 18 студзеня «публічно демонстрировала флаг», і падалі на мяне ў Маскоўскі суд. 17.02 суд Маскоўскага раёна па такой жа фармулёўцы, што і Ленінскі, прысудзіў мне 30 базавых велічынь.

Пратаколы ў РУУСах і пастановы ў судах пішуць пад капірку. Пішуць па-расейску.

Бюджэт пусты, а грошы, знятыя з людзей, у сістэме круцяцца, напаўняюць і забяспечваюць існаванне сілавікоў, судоў, пракурораў.

Але арт. 58 Канстытуцыі не забараняе грамадскія сходы, звароты. Не забаронены законам і наш бел-чырвона-белы сцяг.

У 2015 чыноўнікі трохі сціхлі перад выбарамі прэзідэнта, не жадалі псаваць адносіны з Еўрапейскім Саюзам. А цяпер мы зноў коцімся назад не на ўсход, а ў яму.

У памяці вершы Анатоля Сыса:

І прыйшлі-прыбеглі каты,
нацкавалі груганоў,
як сабак,
на песню птаха,
на бунтарны спеў званоў.

І прыйшлі-прыбеглі суддзі,
абвясцілі свой прысуд:
біць, пакуль не трэснуць грудзі,
біць, пакуль не ўкленчыць люд!..

Веру, як сканаў СССР, так і цяперашняя несправядлівасць скончыцца.

**Ніна Багінская, пенсіянерка, Мінск**

**Іранічна**

## Абмяркоўваем штогадовае пасланне прэзідэнта беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу

Я, як і ўвесь народ, горача ўхваляю, падзяляю і выказваю захапленне. Я — не экстрэміст, не апартуніст, не пятая калона і нават не настаўнік. Абход сем'яў вучняў ухваляю асабліва:

8:00 — 14:00 — урокі, I змена;
14:00 — 16:00 — факультатывы, гурткі;
14:00 — 16:00 — урокі, II змена;
19:20 — 22:00 — пакватэрны аб'езд з мэтай выяўлення і азнаямлення.

А далей што? Ды нічога! Да 23:15 дадому дабярэшся. Нехта вельмі мудры не ўлічыў, што Мінск — гэта не вёска Карзюкі, на 28 двароў. Вучні з сем'ямі месцяцца ў Нью-Сухараве, на вуліцы Прытыцкага, дзе ўжо пасля 165-га дома ў бінокль добра можна разгледзець Астравецкую АЭС, якая будуецца, і ўскрайкі Гродна. А катэджы ў Лос-Самахвалавічах ці Калодзішчахсісі? Бацькі за 35 хвілін дамчаць дзетак на сваіх іншамарках.

У мяне ўсё жыццё красці няма чаго: крэйда, дошка, анучка, купка амаль што геніяльных дзяцей… І ўсё! Не, я радуюся разам з усімі: найлепшае надвор'е, найлепшая школа (як і ўся адукацыя), найлепшыя ў свеце эскулапы, якія не бяруць на лапу, пяшчотная, поўная любасці міліцыя — не спрачаюся! Але… Забаў і разнастайнасці ў горадзе малавата! Прапаную: катанне на запрэжках, запрэжаных настаўнікамі. Бясплатна. На ўцеху дзеткам і іх бацькам. З настаўнікаў — адлічэнне па 5% з заробку на мерапрыемства. Застаяліся ў стойле. Час прысьпеў адпрацаваць агульнадзяржаўны клопат!

**Таццяна Карэліна, Мінск**

### Дзякуем за ахвяраванні нашым чытачам

Дзякуем неабыякавым чытачам за першыя ахвяраванні на выхад NN.BY/«Нашай Нівы» праз сістэму АРІП: Д-ка І.М., Сяр-к В.Н., К-ль А.Б., Л-да С.І., holod_by, Сяргею, Гр-му М. А., К-нік Г.С., К-ву А.А., Д-му А.В, Д-кай В.І., Ж-к С.В.

### Удакладненне

У мінулым нумары газеты ў выніку карэктарскай памылкі было няправільна падпісана фота. Там, дзе стаіць подпіс «Аляксандр Чаркасаў, старшыня праўлення СПК «Парыжская камуна» трэба чытаць: «Старшыня Касцюковіцкага райвыканкама Дзмітрый Малашанка».

# Чатырох чалавек апeрыравалі ў 2-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска, а потым кожны захварэў на гепатыт С

Перад намі ў кавярні сядзіць усмешлівы, разумны, сімпатычны барадач Рома Капыркін. У свае 23 гады яму б хваліцца праграмісцкім талентам або рэдкім у крызісны час аптымізмам, а замест гэтага ён распавядае нам гісторыю, якая прывяла яго з заявай у Следчы камітэт. Здавалася б, звычайная справа — разбалеўся жывот, адправілі ў лякарню з апендыцытам, прааперыравалі. Непрыемна, вядома, але з кім не бывае. Аднак праз два месяцы пасля аперацыі ў Ромы выявілі гепатыт С. Можна было б з тугой у вачах аплакваць лёс або наракаць на дрэнныя гены, калі б не адно «але». За апошнія два гады яшчэ трое беларусаў пасля аперацыі ў тым жа аддзяленні экстранай хірургіі 2-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска захварэлі на гепатыт С.

Рома трымаецца малайцом, аб гепатыце, які медыкі называюць «ласкавым забойцам», распавядае з гумарам: «Я хлопец кемлівы, сам усё «пагугліў», пашукаў у інтэрнэце сімптомы, прыйшоў у паліклініку і кажу: «У мяне, дарагія дактары, гепатыт. «Што, хуткую выклікаць? — Не, не трэба. Сам дайду».

У рэальнасці, вядома, мала хто зможа так бадзёра сказаць і сабе самому, і лекарам праўду пра гэты дыягназ. Па-першае, хварэць на гепатыт С у нашай краіне паранейшаму сорамна: у вачах тваёго асяродку (у тым ліку медыкаў) ты адразу ператвараешся ці то ў наркамана, ці то ў жанчыну лёгкіх паводзінаў, ці то ў наркамана лёгкіх паводзінаў. Па-другое, хвароба пасапраўднаму пагражае жыццю. Гэта вам не гаймарыт ці апендыцыт, усё вельмі сур'ёзна. Падрыхтуйцеся заплаціць за лячэнне тысячы даляраў, інакш праз дзясятак гадоў вас чакае цыроз/рак печані. Ну а па-трэцяе, да нядаўняга часу ў Беларусі нават не працаваў фібраскан. Каб адсачыць стан печані, пацыенты ездзілі ў Вільню.

Для Ромы ўся гэтая гісторыя пачалася 21 кастрычніка 2015 года:

— Я быў у Мінску, на працы, калі адчуў боль у жываце справа. Да вечара боль прыкметна ўзмацніўся, і, «пагугліўшы трошкі» сімптомы апендыцыту, ужо з дому я патэлефанаваў у хуткую. Па мяне прыехалі, памацалі, сказалі: «Так, гэта апендыцыт», — і павезлі ў 2-ю гарадскую клінічную бальніцу. Літаральна праз дзве-тры гадзіны мне зрабілі аперацыю ў экстраным хірургічным аддзяленні, выдалілі апендыкс. Праз пяць дзён мяне выпісалі, і я вырашыў, што на гэтым гісторыя скончаная. Так, адчуваў нейкі дыскамфорт, але спісваў усё на звычайны пасляаперацыйны стан. Амаль праз два месяцы, у сярэдзіне верасня, з'явіліся сур'ёзныя сімптомы: пажоўклі вочы, пачало свярбець. Я зноў усё «пагугліў», пачытаў і сам сабе паставіў дыягназ — гепатыт».

Дактары ў паліклініцы пацвердзілі Ромаву версію. Да гарадской інфекцыйнай клінічнай бальніцы Мінска хлопец даехаў сам, на сваіх нагах. Рома быў упэўнены, што ўсё абыдзецца гепатытам А — самай лёгкай і хутка вылечнай формай. «Напэўна, дзесьці брудныя вадзіцы папіў, вось і падхапіў», — разважаў праграміст. Праз тыдзень прыйшлі вынікі аналізаў: маркеры на гепатыт С былі станоўчымі. Новы год Рома сустрэў у бальніцы, пад кропельніцай.

Што чакае хлопца далей? Стандартнае лячэнне, якое прапануюць беларускія дактары, — гэта пегінтрон і рыбаверын. У гэтых лекаў маса пабочных эфектаў, а па грошах яны абыдуцца прыкладна ў $1000 на месяц. Пасля ўколу пегінтрону, які робіцца раз на тыдзень, многія пацыенты адчуваюць такую слабасць і млоснасць, што фізічна не могуць працаваць. Адчуванні параўнальныя з хіміятэрапіяй у анкахворых. Акрамя таго, няма гарантыі, што такое лячэнне дапаможа. Шанцы — 50 на 50.


Рома і Аня ўпэўненыя, што жыццё ім паламалі дактары.

Другі варыянт — амерыканскія прэпараты, якія даюць 90% гарантыі на выздараўленне, ды і пабочных эфектаў значна менш. Трохмесячны курс лячэння каштуе прыкладна $60—90 тыс., а гэта астранамічная для шараговага беларуса сума. Кемлівыя індыйскія фармкампаніі выпускаюць джынэрыкі — бюджэтныя аналагі амерыканскіх лекаў. Увесь курс такіх прэпаратаў будзе каштаваць да $3000. Таму Роме ёсць над чым падумаць...

— Чыста гіпатэтычна існуе мізэрны шанец, што хвароба пройдзе сама. Але гэта, хутчэй, з вобласці фантастыкі. Усё, што адбылося, я магу пракаментаваць дакладна і коратка: гэта проста жэсць! Я лёг у бальніцу лячыцца, а выйшаў з яе з гепатытам. Акрамя таго, аказалася, што я не адзін такі. Пашукаў інфармацыю ў інтэрнэце і даведаўся, што ў 2014 годзе дзве дзяўчыны і мужчына таксама выявілі ў сябе гепатыт С пасля аперацыі ў аддзяленні экстранай хірургіі 2-й ГКБ. Тое, што адбылося, прымусіла мяне звярнуцца з заявай у Следчы камітэт. Мая мэта — атрымаць ад дзяржавы фінансавую падтрымку для лячэння, — кажа Раман.

У гэтым яго падтрымліваюць калегі па няшчасці — Аня Канстантовіч, Алена Матусевіч і Уладзімір Жыгалкін. Усе трое з рознымі дыягназамі (вострыя апендыцыт, разрыў кісты) апeрыраваліся ў аддзяленні экстранай хірургіі 2-й ГКБ у Мінску ў красавіку 2014 года. Аня і Алена нават ляжалі ў адной палаце. А праз некалькі месяцаў яны зноў сустрэліся — на гэты раз у інфекцыйнай бальніцы. Аналізы на гепатыт С ва ўсіх траіх аказаліся станоўчымі.

«Я ж не ўжывала наркотыкі, не вяла распусны лад жыцця і наогул нічога дрэннага не рабіла», — уздыхае Аня, 20-гадовая студэнтка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.

Яна трапіла ў 2-ю ГКБ Мінска з дыягназам «разрыў кісты правага яечніка». Дзяўчыну прааперавалі і праз шэсць дзён выпісалі. А далей гісторыя адзін у адзін паўтарае Ромаў выпадак.

Аня выпадкова даведалася, што дзяўчына, якая ляжала з ёй у адной палаце ў 2-й ГКБ, Алёна Матусевіч, таксама трапіла ў «інфекцыйку» з гепатытам С.

«Следчыя працягваюць разгляд гэтага матэрыялу. Прызначаныя экспертныя даследаванні», — расказала прадстаўніца Следчага камітэта Юлія Ганчарова.

**Паводле onliner.by**

## За наркотыкі затрымалі 21-гадовага хлопца

Падазраваны жыў у забяспечанай сям'і, але сам вучыцца ці рабіць не хацеў. Замест гэтага ён спісаўся з арганізатарам інтэрнэт-крамы, што прадавала псіхатропы ў Мінску. Хлопец прапанаваў свае паслугі.

Некаторы час ён выконваў ролю шараговага закладчыка. Наймальнікі адзначылі яго выканаўчасць і прапанавалі свайго роду падвышэнне — арганізаваць лабараторыю, вырабляць прадукт з аптовых партый сыравіны і перадаваць з дапамогай закладак распаўсюднікам рангам ніжэй. Для гэтых мэтаў яму параілі арандаваць кватэру, а неабходнае абсталяванне і падрабязныя інструкцыі былі перададзеныя праз тайнік.

У часеператрусу па месцы жыхарства абвінавачанага знайшлі і канфіскавалі больш за 1,4 кг парашку, які змяшчае псіхаактыўныя кампаненты, лабараторнае абсталяванне, аксэсуары і хімічныя злучэнні, якія выкарыстоўваюцца пры вырабе псіхатропаў. Таксама канфіскавалі ў яго камп'ютары і мабільнікі, пластыкавыя карты розных банкаў, 230 тысяч расійскіх рублёў.

Хлопца чакае да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**УШ**

## Байцоўскі сабака ледзь не загрыз жанчыну

У ноч на 30 красавіка ў вёсцы Дзераўная пад Баранавічамі сабака пароды пітбуль напаў на 33-гадовую жанчыну. Ды так моцна яе пагрыз, што дактары вымушаны былі ампутаваць ёй абедзве рукі.

Сабака належыць сужыцелю жанчыны. Па словах суседзяў, сабака заўсёды быў агрэсіўны. А ў жанчыны былі забралі бацькоўскія правы, яна вяла асацыяльны лад жыцця, адно што працавала дворнікам у раённай ЖКГ.

**Руслан Равяка, Intex-press.by**

## Школьнікі, а ўжо злачынцы

У Лепелі падлеткі ў масках абрабавалі краму.

Днём 29 красавіка 15 і 16-гадовы навучэнцы адной з ПТВ Лепеля надзелі маскі з прарэзамі для вачэй, прыставілі да прадаўца нажы і муляж пісталета. З касы крамы яны скралі 4 мільёны рублёў.

Пасля хлопцы ўцяклі з месца злачынства, аднак іх знайшлі і затрымалі. Ім пагражае ад 8 да 15 гадоў.

**УШ**

## Пасажыр памёр, кіроўца збег з лякарні

Аварыя адбылася ноччу 1 мая ў гарадскім пасёлку Плешчаніцы.

30-гадовы кіроўца «Пежо-406» не даў рады кіраванню, таму аўтамабіль вылецеў у кювет і ўрэзаўся ў бетонную агароджу.

У выніку ДТЗ 32-гадовы пасажыр ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння, 33-гадовая пасажырка і кіроўца былі дастаўлены ў бальніцу, адкуль апошні збег.

Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца быў п'яны.

**Auto.tut.by**

## Сцісла

### Забіла маланкай

У Слоніме дачка знайшла сваю 74-гадовую маці мёртвай на вуліцы. На целе загінулай былі прыкметы, характэрныя для паразы ўдарам маланкі. Дакладную прычыну смерці высвятляюць следчыя.

### Не пашанцавала

У Пінску 52-гадовага мужчыну насмерць прыціснула аўтамабілем падчас рамонту. Цела знайшоў сусед.

### Загінуў на працы

На МАЗе загінуў 37-гадовы рабочы: на яго ўпаў магніт. Абставіны здарэння высвятляюцца.

### Пасажырка пабіла кіроўцу

У Брэсце жанчына хацела сесці ў маршрутку, пакуль яна стаяла на святлафоры, але кіроўца не адчыніў ёй дзвярэй. Жанчына раззлавалася, адчыніла пярэднія дзверы і налящела на кіроўцу з кулакамі. Той выклікаў нарад міліцыі.

**УШ**

# Без працягу: вялікі Пінігін паставіў «Дзве душы» вялікага Гарэцкага

Шчымлівы момант здарыўся пасля прэм'еры «Дзвюх душаў». Радзім Гарэцкі, пляменнік расстралянага саветамі класіка беларускай літаратуры, выйшаў на сцэну, каб падарыць вялікі букет чырвоных ружаў рэжысёру спектакля, мастацкаму кіраўніку тэатра імя Янкі Купалы Мікалаю Пінігіну.

Я сядзеў у 8-м шэрагу, а ў 7-м, злева ад мяне і проста перад першым рэдактарам адноўленай «Нашай Нівы» Сяргеем Дубаўцом, сядзела віцэ-прэм'ерка Качанава, прызначаная ва ўрад, як расказаў сам Аляксандр Лукашэнка, па рэкамендацыі спецслужбаў. Яна выглядала трохі напружанай падчас першай дзеі. Апладзіравала разам з усімі, але ўслухоўвалася ў сцэны з лёгкай падазронасцю.

«Дзве душы» Гарэцкага — гэта геніяльная мова, геніяльны сацыяльны аналіз і абсалютна геніяльны сюжэт. Усё гэта было напісана класікам па свежых слядах па-мастацку пераасэнсаваных падзей — у 1919 годзе.

Частку рукапіса сканфіскавалі польскія акупанты ў часе аднаго з ператрусаў у рэдакцыі. Параза беларускіх спробаў збудаваць сваю незалежную дзяржаву спыніла работу Гарэцкага над «Дзвюма душамі». Дапісаць аповесць Гарэцкаму не давялося ніколі. У 1923 годзе ён вярнуўся ў БССР, дзе абяцалі будаваць Беларускую дзяржаву. Гэта быў вялікі сталінскі падман. У 1930 Гарэцкага арыштуюць. У 1938 — расстраляюць. Сама аповесць да 1990-х была забароненая камуністамі.

Ніякі іншы твор так не надаецца на «дадумванне» сцэнарыстамі і рэжысёрамі, як «Дзве душы». Гэта інтрыга з «адкрытым канцом». Вось як ты гэта сабе ўяўляеш, так і развівай.

### Сюжэт Гарэцкага

Беларусь часоў Багушэвіча. Пад Крупкамі жыве сярэдняй рукі пан Абдзіраловіч. Ён вяртаецца з жонкай з балю ў суседзяў. На начной дарозе яго перапамаюць ворагі. Хочуць забіць яго, а трапляюць калом у скроню жонцы.

Сіратою застаецца немаўля Ігналік. Абдзіраловіч бярэ яму за нянькy сялянку Маланню, у якой сваё малое. І тая, хочучы лепшай, панскай долі свайму сыну Васільку, падмяняе яго са шляхціцянём.

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя. Паранены прапаршчык Ігнат Абдзіраловіч лечыцца ў Маскве і сустракае свайго малочнага брата Васілька. Талковы хлопец, той працуе на фабрыцы і актыўнічае ў бальшавіках.

На Каўказскіх Мінеральных Водах Абдзіраловіч знаёміцца з дачкой мільянера-беларуса, які разбагацеў на ваенных пастаўках. За яе сэрца ён змагаецца з іншым багатым беларусам, князем Гальшанскім. Параза ў гэтым змаганні пакідае балючы след у ягонай душы.

Вярнуўшыся ў Беларусь, Абдзіраловіч дазнаецца, што мужыкі сплюндравалі іх маёнтак, а ягоны бацька схаваўся. Між тым Абдзіраловіч сутыкаецца з беларускімі агітатарамі і настаўнікамі-адраджэнцамі, у ліку якіх і ягоныя даўнія знаёмыя. Беларускай актывісткай стала і яго першае каханне.

У Маскве ён трапляе ў вір баёў між юнкерамі і бальшавікамі. Але, галоўнае, Малання перад смерцю прызнаецца яму, што гэта ён — сялянскі сын. «Мой ты!.. Мой родны сынок... А Васілёк — панскі. Перамяніла я вас маленькіх, пераклала. Меркувала: шчаслівейшы так будзеш...»

Да сэрца Абдзіраловіча гэтае адкрыццё ішло некалькі месяцаў... І апынуўся ён у віры падпольнага змагання за Беларусь і бясчынстваў бальшавікоў на ёй. А яму за каго быць? За паноў ці за мужыкоў? За беларусаў ці за саюз? І сам хто ён — пан ці мужык? У чым праўда? І ці трэба расказаць Васілю пра апошнія словы яго — сваёй — маці? Абдзіраловіч яшчэ не мае пэўных адказаў на гэтыя пытанні, але ён цвёрда бачыць, у чым няма праўды: у асцярвяненні, катаванні людзей, забойствах.

Сваю эвалюцыю перажывае і Васілёк. Прыродныя сумленнасць і дабрыня не дазваляюць яму прыняць зверствы паплечнікаў-бальшавікоў. Гэта такі ўмоўны будучы наркам Прышчэпаў, можна так меркаваць...

Рукапіс «Дзвюх душ» абрываецца на сцэне пахавання крывавага чэкіста, забітага рукою такога ж крывавага агента белых. А Абдзіраловіч пакутуе ад няздольнасці хоць неяк супрацьстаяць гэтаму цунамі крывавага вар'яцтва, што праносіцца па Беларусі туды і сюды.

І вось тут пара сказаць, што не зусім як у Гарэцкага ў п'есе Нацыянальнага акадэмічнага тэатра.

### Па-руску і па-беларуску

Мінеральныя Воды, сходка вайскоўцаў-беларусаў. У Гарэцкага князь Гальшанскі прамаўляе на ёй па-расейску. І гэта кантрастуе з Абдзіраловічам, што гаворыць да салдатаў на роднай мове, якая ўсплывае яму ў памяці.

Пінігін пабаяўся ўкласці рускую мову ў вусны адмоўнага героя, пабаяўся.

Увогуле, парыўны выступ Абдзіраловіча на тым мітынгу важны для разумення ягонай натуры. У ім ёсць пачуццё справядлівасці, у ім ёсць і палітычныя перакананні. Гэта не апалітычны Пячорын.

### Інцэстуальны матыў

Абдзіраловіч у маладосці кахаў Іру, дачку ляснічага, але тая не адказала ўзаемнасцю, бо не верыла, што Ігнат пераступіць праз класавую рысу. Калі ісці за логікай сюжэту, акурат-такі доля судзіць ім сысціся.

У Пінігіна ж Іра аказваецца дачкой Маланні. Такім чынам, іх каханне азначала інцэст.

Па-мойму, такія хады ў духу найноўшай брытанскай версіі Шэрлака Холмса зусім чужыя, неўласцівыя Гарэцкаму. Ён быў натуралістам, пераважны ўплывы Заля, але гэта быў зусім іншы натуралізм.

### «Сьвядомыя»

На маю думку, самы ганебны момант у пастаноўцы — гэта сцэна дуэлі агітатараў у часе выбараў ва Устаноўчы сход.

Словы, прыпісаныя агітатару за беларускі спіс у дадатак да тэксту Гарэцкага, робяць яго камічным, адарваным ад народа. Гэта не адраджэнец Гарэцкага, гэта «сьвядомы», далёкі ад народа лузер і фантазёр з палітычных пасквіляў нядаўняга часу.

Між тым Гарэцкі бачыць памылкі радыкала Сухавея, але не падпісвае яму прысуду. «Старэйшыя людзі, дзядзькі і цёткі, ветліва і ўважна слухалі хлапца, таксама і частка моладзі». І толькі калі моцныя гаспадары разышліся па дамах, «беларуская старана, што была за вучня, аслабела» на мітынгу.

### «Рускі»

«Рускі» — іншы геніяльны сюжэт класіка, над экранізацыяй якога даўно задумваўся Віктар Аслюк. Аўтары сцэнічнай адаптацыі, Максім Клімковіч і Уладзіслаў Ахроменка, тлумачаць устаўку гэтай сцэны ў п'есу тым, што хацелі ёй праілюстраваць фразу Абдзіраловіча: «Я атупеў на гэтай вайне». «Каб паказаць гэтую атупеласць, мы і ўставілі «Рускага» — на мой погляд, найлепшае апавяданне Гарэцкага. А тое, што беларус забівае ўкраінца... А хіба не тое ж самае адбываецца сёння на Данбасе? Беларусы там ваююць з абодвух бакоў», — кажа Клімковіч.

Але на сцэне, калі салдат без патрэбы забівае выпадкова спатканага ўкраінца з аўстрыйскай арміі, ён выглядае такім вобразам, хутчэй, цёмнай масы народнай, масы жорсткай, драпежнай, ірацыянальнай. Гэта ён будзе бунтаваць у вёсцы, гэта ён будзе вартавым у бальшавіцкай турме. І гэта ён таксама паляжа расстраляны ў Курапатах урэшце.

### Відэаграфіка, Падаляка, паўлінкаўшчына

Відэаграфіка цудоўная. Як і ў «Пану Тадэвушу», яна стварае дадатковае вымярэнне.

Раман Падаляка: гэтаму патэнцыйна найглыбокаму акцёру Пінігін яшчэ не знайшоў ягонай ролі, ягонага канфлікту, дзе б ён быў самім сабой. Можа быць, Гамлет будзе ягонай вяршыняй? Падаляка-Абдзіраловіч ніякі. Ён ходзіць па сцэне і сузірае. Так, Абдзіраловіч Гарэцкага «назіральнік і слухальнік». Але Абдзіраловіч Гарэцкага праходзіць складаную эвалюцыю — не толькі пад уплывам таго, што даведаўся пра сваю насамрэч сялянскую кроў. Ён зазнае і магутны ўплыў думаючай, адраджэнскай моладзі, з якой сутыкнуўся. Ён і сам думаючы ад прыроды.

Вобразы жанчын карыкатурызаваныя. Маланка ў маладосці — гэта не дурнічка. А Іраіда — увогуле рэжысёрскі правал. Няможна ў «Дзвюх душах» іграць у манеры «Паўлінкі». Калі гэта рашэнне рэжысёра — незалік яму. А калі гэта прадукт нашай сцэнічнай школы, то прыкра гэта.

Гарэцкі — глыбакаводная рыба, «Дзве душы» не церпяць вадэвілізацыі.

### Генезіс і экзістэнцыйнае

Шляхецка-сялянскія супярэчнасці маюць мала значэння ў наш час (дый прычыны і наступствы Кастрычніцкай рэвалюцыі яны да канца не тлумачаць).

Падзел на каталікоў і праваслаўных таксама страціў актуальнасць.

Як па мне, гэтага ў спектаклі замнога, і гэта пераўбівае, забівае і тое напружана-экзістэнцыйнае, што ёсць у аповесці Гарэцкага, і тыя спробы Гарэцкага стварыць генезіс сацыяльных канфліктаў, і прасачыць лёс чалавека на іх фоне.

### Табу на барацьбу

Тэма сацыяльнай барацьбы ўвогуле слаба даецца цяперашняму афіцыйнаму беларускаму тэатру. У Оперы паставілі «Сівую легенду» — праўда, чужаніца ставіў, які не разумее нашай гісторыі, дык у гэтым Караткевічавым творы цалкам вычысцілі лінію сацыяльна-класавай барацьбы, пакінулі толькі каханне. І такім інвалідам аднаногім выпусцілі на сцэну.

Пінігін не бярэ на сябе смеласць дадумаць развіццё сюжэта (на маю думку, гэта самацэнзура вялікага рэжысёра). Пінігін абрывае твор там, дзе ён абрываецца. Далей ідуць толькі расстрэлы. Расстрэльваюць і самога Гарэцкага, апавядальніка з вясёлымі вачыма, што катаў па сцэне сваю гулагаўскую тачку (выдатная рэжысёрская знаходка).

Гэты спектакль пастаўлены для міністра Шуневіча — заўзятага тэатрала і аматара мундзіраў НКВД адначасова.

Віцэ-прэм'ерка Качанава апладзіравала разам з усімі. У перапынку яна падышла да акадэміка Гарэцкага і яны размаўлялі...

Па-мойму, выразная цэнзура не зашкодзіла ідэйнай цэльнасці «Пана Тадэвуша». А самацэнзура «Дзве душы» падкалечыла.

### А куды яны ідуць?

Выйшаў выразна антыбальшавіцкі спектакль. Але не выйшаў спектакль пра пошук беларусам сябе і пошук чалавекам сябе — пошук, у якім Максім Гарэцкі выразна салідарызаваўся з Міколам Канцавым, Ірай Сакавічанкай і Васілём ды нават ідэнтыфікаваў сябе з імі.

Кроў, паходжанне — умоўнасць. Любоў — не ўмоўнасць. І Радзіма, да якой мы нясём у сабе любоў у тым ліку, таксама не ўмоўнасць. І, пры ўсёй складанасці найшчэўных лёсаў, дабро і зло — не адносныя паняцці. Вось адназначныя ідэі Гарэцкага.

* * *

Канечне прачытайце аповесць «Дзве душы».

Канечне схадзіце на «Дзве душы» ў тэатр, не пашкадуеце.

Гэта безумоўна нацыянальны тэатр, рэфлексійны тэатр, і гэта відовішча. Сяргей Дубавец прызнаўся ў фэйсбуку, што ён тройчы плакаў на спектаклі.

«Дзве душы» Гарэцкага належаць да таго тыпу матэрыялу, у якога, у адрозненне ад «Паўлінкі», не можа быць кананічнай інтэрпрэтацыі. І сапраўдны пераможнік Пінігіна народзіцца тады, калі нехта тут і цяпер паставіць свае «Дзве душы» інакш.

**Андрэй Дынько**

# Жураўліная песня

## Як старыя партызаны шукалі парэшткі сваіх пабрацімаў

Кожны год, калі набліжаецца Дзень Перамогі над нацызмам, думаецца не пра дзяржаўнае свята, якое глухне ў рыку танкавых рухавікоў і слепне ў фальшывым бляску медалёў і значкоў так званых «ветэранаў», а пра безліч ахвяраў, пакладзеных на алтар той Перамогі. І найперш тых, чые костачкі яшчэ застаюцца непахаванымі. У Беларусі пошукавыя атрады знайшлі парэшткі больш як 75 000 чалавек... І канца гэтай гаротнай працы пакуль не відаць. А пачыналася яна ў 1960-я, калі тыя, хто сапраўды ваяваў і застаўся жывы, адчувалі маральны абавязак перад тым, хто адышоў у невядомасць... Піша **Сяргей Ваганаў**.



Атрымаўшы ад райваенкама позву на дзевяць раніцы да дырэктара запаведніка, Аляшкевіч няспешна паклаў у старую палявую сумку пасведчанне аб партызанскім медалі, ордэнскую кніжку да ордэна Чырвонай Зоркі, даведкі пра тое, што ён быў зброевым майстрам у брыгадзе імя Кірава і вывеў у 1944 годзе з акружэння брыгаду «Старыка». Папярэдзіў жонку, каб да абеду не чакала, і, прыпужаўшы яе міжнародным становішчам, накіраваўся ў Крайцы.

У кабінеце дырэктара яго ўжо чакалі ваенкам — сярэдніх гадоў падпалкоўнік — і чорнавалосы малады чалавек з райвыканкама.

— Сядайце, Рыгор Ігнатавіч. Тут вось якая справа...

Стары сцягнуў з сівой галавы вушанку з задубелымі завязкамі, перасунуў палявую сумку на калені. Трымаўся ён проста, з годнасцю, ведаючы, што па дробязях яго турбаваць не будуць.

— Зрэшты, Міхаіл Андрэевіч, — звярнуўся ваенкам да дырэктара, — пачакаем Аўтушку.

— Сідара? — спытаў Аляшкевіч.

— Яго. Таксама ж стары партызан.

— Так. Была справа...

Хутка з'явіўся і Сідар, ледзь прасунуўшы ў дзверы магутныя плечы. Павітаўшыся, знайшоў сабе месца наводдаль і, па-бабску няёмка склаўшы рукі на каленях, запытальна зморшчыў лоб.

— Дык вось, таварышы старыя партызаны, — троху ўрачыста пачаў ваенкам. — Вы ведаеце, што на тэрыторыі запаведніка з вайны засталіся яшчэ магілы вядомых і невядомых салдат і партызан. Да Дня Перамогі мы хочам перапахаваць іх парэшткі ў брацкія магілы ў Крайцах і Пастрэжжы. Зробім гэта ўрачыста, з аркестрам. Некалькі магіл мы ўжо адшукалі. Мо і вам штосьці вядома, вы ж кожную сцежку ў лесе ведаеце...

— Ды тут па ўсіх лясах костачкі... Сідар, а Сідар, — Аляшкевіч павярнуўся да Аўтушкі, — памятаеш там, на Трасцянцы, у балоце?

— Ты пра тую зямлянку? У 44-м, калі на лася хадзілі?

— Ага. Там зямлянку знайшлі, лазарэт. Дзесяць партызанаў забітых. І дзяўчыну, санітарку. Так у белым халаце і ляжала. Гэта ўжо пасля другой блакады. Колькі тады нашых людзей пабіла, таварыш ваенкам!

— Дзе гэта Трасцянка? На машыне праедзем? — падпалкоўнік зірнуў на мапу запаведніка.

— Ды вы што, невядома, ці пешшу дойдзем. Гэта за Нешкавам, з тры кіламетры. Давай, Сідар, сходзім, паглядзім, мо што і знойдзем... Так і ляжала ў белым халаце, ля самага ўвахода...

— Што ж ты там зараз знойдзеш? Дваццаць тры гады прайшло. Месца зусім дзікае, балота, звяр'ё... І як іх тамака немцы ўбачылі? Мо з самалёта?

— Мо і з самалёта, — пагадзіўся Аляшкевіч.

* * *

Выехалі мы назаўтра ад самага ранку. Пакрахтаўшы наконт таго, што нехта нам дрэннага каня запрог, а шлях доўгі, васямнаццаць кіламетраў, Аляшкевіч закінуў на воз модны спартовы рукзак, мабыць, з апошніх набыткаў, скруціў самакрутку і ляніва рушыў з месца. Першага сустрэлі Колбіна, загадчыка музея.

— Ну, як жонка, ці звонка? — Аляшкевіч прыпыніў каня.

— Звонка, Рыгор Ігнатавіч. Далёка выправіліся?

— Ды ў Нешкава, а там за Трасцянку.

— А па якой патрэбе?

— У 44-м з Сідарам там на лася хадзілі...

І Аляшкевіч падрабязна распавёў, што там бачылі, з якой мэтай едзем, не забыўшыся на аркестр... Колбін, сталы сухаваты чалавек у даўгаполым плашчы і вялізным капелюшы, чымсьці падобны ў гэтым уборы на ватыканскага святара, слухаў уважліва, не перапыняючы.

— Так, — уздыхнуў, — многа гадоў прайшло.

І чамусь выцягнуў з кішэні газету, разгарнуў:

— Вось, схема надрукавана, адкуль да нас сёлетняя вясна набліжаецца. З захаду, таму і прылёт паўднёвых птушак затрымліваецца. Не бачыў яшчэ жураўля, Рыгор Ігнатавіч?

— Пакуль не. Ну, бывай здаровы. Мо да вечара і дабяромся...

Дарога пайшла сухім сасновым борам. Уздоўж першага шэрагу дрэў прыкметныя былі акопы, павернутыя ў адзін, ад дарогі, бок.

— Нямецкія. А вось кулямётнае гняздо, — Аляшкевіч паказаў на маленькую лагчынку. — Партызаны акопы не капалі, затрымлівацца на адным месцы нельга было. Вось па балотах базіраваліся. А колькі тут людзей ад голаду, ад хваробаў памерла! У другую блакіроўку немцы самалёты пусцілі, балоты бамбілі. Ды бомбы тыя не ўзрываліся, правальваліся... А дзе ўзрываліся, там цяпер глыбокія ямы з чорнай вадой. А вось цікава, таварыш карэспандэнт, мо ведаеш прычыну. Да адной такой ямы звяры на вадапой панадзіліся. Дзікі, ласі, мядзведзь падыходзіў. Побач Бяроза (так у Бярэзінскім запаведніку завуць Бярэзіну — **СВ**), а яны да той ямы. Мо карысна чым тая вада? Спытаю ў Цая, няхай зазнае яе лабараторыю...

— Хто гэта — Цай?

— А, Сяргей Іванавіч, намеснік дырэктара па навуцы. Добры мужык...

Упершыню за ўсю вясну дзень стаяў па-сапраўднаму цёплы. Вецер не дасягаў нас, захрасаў недзе ў вершалінах соснаў. Дарога адразу адтаяла, адмякла. Снег, моцны, «як мур», ляжаў толькі ў цені ды чапляўся за пабляклую траву ў нізінах, лугзямінках па-тутэйшаму.

Аляшкевіч, здаецца, забыўся на мэту нашай нечаканай вандроўкі, кінуўся, нібыта ўплаў, у гісторыю свайго жыцця. Слухаў я яго няўважліва. Не адступала ад вачэй тая дзеўчына ў белым халаце, каля самага ўвахода. Я ўяўляў сабе, як яна кінулася пад кулі, у апошні момант намагалася ўратаваць параненых... Як птушка, што адцягвае забойцаў ад свайго гнязда...

Аляшкевіч раптам загаварыў у будучым часе.

— Бацька мой, значыць, каталік, будзе на ксяндза вучыцца. А як ажэніцца з рускай, матуляй, значыць, маёй, сваякі яго праклянуць. Потым бацька аслепне і памрэ, а я, значыць, старэйшым застануся. Пайду да дзеда парады пытацца. Дзед у мяне разумны, вялікі майстар езусаў з дрэва выразаць... каторыя плачуць. Кім быць, спытаю ў дзеда, а ён адкажа: за шаўца вучыцца — размахніся і хлеба няма; за краўца вучыцца — шах-мах, блінцы на паліцы; на каваля вучыцца — стук-мяк, вось праснак, вось пятак і справа так. А потым дадасць: цясляр робіць грудзьмі, а каваль — людзьмі. І пайду я на каваля. Толькі рабіць прыйдзецца больш сваімі рукамі.

— А цяпер на пенсіі?

— Дзе там. Майстар па меліярацыі. Добрая праца.

— Колькі ж вам гадоў?

— 68. Гэта што! Я дужы яшчэ. Усё магу. Каня магу падкаваць, сякеру з дроту зрабіць. У партызанах ведаеш якую гармату зладзіў? Вось толькі прыцэлу ды бусолі не было, праз ствол наводзілі. А што ППШ з вінтовак нарабіў, дык і ліку няма. А пісьменнасці ведаеш як вучыўся? Калі ў 20-х гадах у чырвонай кавалерыі пад Барысавам служыў, ад дзевак адбою не было. А на запіскі адпісваць не ўмеў. Тады па запісках і пачаў грамаце разумець. А адна прыгожая такая паненачка была, усё па лаціні лісты пісала. Доўга не магу ў галаву ўзяць, што да чаго. А потым і лацінь зразумею. Адзін ветэрынар навучыць...

У Пастрэжжа, да Сідара Аўтушкі, дабраліся гадзіны за дзве. Адразу ў хату пазбіраліся вяскоўцы, прыкульгаў стары партызан Іосіф Гатоўскі. Паселі на лаўцы. І пацяклі ўспаміны, старэчыя спрэчкі пра тое, што, дзе калі і як было. Сідар гарачыўся. «Ды слухай, слухай жа ты!» — супакойваў яго Аляшкевіч, а Гатоўскі счарнеў тварам і плакаў, згадваючы жонку і дзяцей, якіх карнікі спалілі... Потым з'явілася ягоная другая жонка, ён усцешыўся, пачаў распавядаць, як Бягомль бралі, і запрашаў да сябе абедаць.

Аднак мы спяшаліся. Сідар пасеў наперадзе, на месцы возніка. За Пастрэжжам прыпыніліся ля помніка партызанам на брацкай магіле. Памаўчалі, пакурылі і рушылі далей.

Калёсы загразалі ў размяклым прасёлку, і мы з Аляшкевічам пайшлі пешшу. Усё часцей кідаліся ў вочы дробныя сляды дзікоў, вялікія і акуратныя сляды ласёў. Трапіў і след мядзведзя, моцна ўціснуты, з роўным паўкружжам кіпцюроў. Аляшкевіч адразу згадаў, як недалёка адсюль зваліўся на яго з дрэва мядзведзь.

— Глянуў угару, нібыта капа сена якая — плясь! Я ў адзін бок — ён у другі. Так больш і не сустрэліся, — стары зацягнуўся махоркай. — Я псіхалогію жыцця кожнага звера разумею. Мядзведзь, да прыкладу, на чалавека першым ніколі не нападзе. А вось калі натрапіў на медзведзяня, засцеражыся: недалёка мядзведзіца. А яна ўжо спуску не дасць... А ведаеш, якія самыя страшныя звяры былі тут пасля вайны? Нямецкія аўчаркі. Колькі іх тут, кінутых немцамі, бадзялася! Ды і не тое што па лясах ды балотах, а ўсё да вёсак бліжэй, да чалавечыны... Яны ж на чалавека былі нацкаваныя... Ды чалавек сам нібы звер бывае, толькі б забіць...

За паваротам на Нешкава сталі трапляцца партызанскія зямлянкі, дзе-нідзе яшчэ цэлыя. Неўзабаве перайшлі ручай з назвай Вялікая Рака, што шырока разліўся па левы бок, і ўехалі ў казачную краіну бяроз. Гэткіх бяроз я не бачыў нідзе і ніколі. Нібыта слупы святла, яны лунаЛі над зямлёй, наскрозь пранізаныя птушынымі галасамі. Спявалі дрэвы, спявала паветра. Ён быў такі густы, бярозавы дух, што, здавалася, яго можна піць, як халоднае, са склепа, малако...

І зноў, нейкім таемным шляхам, з'явілася перад вачыма тая дзяўчына ў белым халаце, што раскінула, нібы крылы, рукі на парозе жыцця і смерці, каля самага ўвахода.

...Мы адшукалі тую зямлянку, толькі не адразу. Пакінуўшы на леснічоўцы дашчэнту знясіленага каня, са дзве гадзіны валачыліся па калена ў вадзе, пакуль не выйшлі на сушэйшае месца, астроў па-тутэйшаму. Гэта быў сыры, цёмны, як падзямелле, лес. Ногі правальваліся ў таўшчэзны пласт лісця і хвоі, што ападала не ў апошнюю восень. Пахла прэллю і чамусьці шкіпінарам. Зламаныя дрэвы ляжалі ўпокат. Паміж імі нараслі маладыя атожылкі. «Ліпкі, ліпкі, — паўтараў Аляшкевіч, — памятаю, там былі ліпкі. Унь як павырасталі...»

Спачатку натрапілі на парасколваны чыгунны кацёл. У цёмнай вадзе, што ад зімы засталася на рэшце дна, плавала счарнелае лісце. Старыя асіны ды яліны навокал былі ўсе ў чорных, пазелянелых па краях, дзірках ад куль. Але зямлянкі нідзе не было...

— Глядзі, Сідар, костка!..

На яліне, уверсе, паміж лапамі, напамінам пра імгненнасць жыцця сапраўды бялела чыясь костка...

— Чалавечая, — пазначыў Аляшкевіч. — Мабыць, куніца зацягнула... Шукайма тут...

Толькі цяпер я заўважыў ледзь бачны пад шматгадовым лісцём прастакутнік. Мужыкі ўзброіліся каламі з палеглых ствалоў і моўчкі, чымсьці нагадваючы шэкспіраўскіх далакопаў, пачалі разварушваць лісце.

Так і ёсць. Дробныя жаночыя косткі. Ля самага ўвахода.

Мы склалі знойдзеныя парэшткі да падножжа яліны, накрылі катлом. Аляшкевіч збудаваў невялікі частакол і прычапіў да яго газету — для памяці і адпужваць звера...

* * *

Вярталіся доўга і моўчкі. Раптам з глыбіні сінеючага, ледзь кранутага вечаровым попелам неба пачуліся трубныя гукі, нібыта ўздыхнуў велічэзны арган.

— Ну, вось і жураўлі прыляцелі, — сказаў Аляшкевіч. — Глядзі, чыста як душа чалавечая.

Іх было двое. Яны ляцелі ўзвышана і вольна, раз-пораз напаўняючы перадвячэрняе неба трубнымі гукамі, нібыта ў іх вузкіх выцягнутых горлах хацелі нарадзіцца словы пра тое, якая прыгожая, якая чароўная гэта зямля, на каторай жывяце вы, людзі!

**52 асобны спецыялізаваны пошукавы батальён**

Беларускіх Узброеных сілаў займаецца пошукам і перапахаваннем ахвяраў войнаў. Ён быў заснаваны ў сакавіку 1995 і за час працы выявіў парэшткі 75 514 чалавек. Высветленыя імёны 2 701 загінулага, адпрацавана 2 754 аб'екты, вызначаныя межы масавых пахаванняў 314 889 чалавек. Звязацца з сапёрамі-пашукавікамі можна праз т.: 8 (02132) 3 15 62 або e-mail ospb52@yandex.ru.

# Старажоўка — невядомы

Старажоўка, або Пярэспа — раён ад Камсамольскага возера да Траецкага прадмесця ў межах вуліц Харужай, Крапоткіна, Старавіленскай, Старажоўскай, Камуністычнай, Кісялёва. Сучасны цэнтр Мінска, а калісьці — гарадскія ваколіцы, Старажоўка мае багатую і малавядомую гісторыю.



Жыхаркі Старажоўкі, канец 1940-х.

З сярэдзіны XIX ст. зямлю тут сталі шчыльна забудоўваць домаўласнікі, забудова не спыняецца дасюль. Да 1980-х на Старажоўцы існавала трывалая суседская, гістарычная і культурная супольнасць, аб'ядналая агульнай тэрыторыяй, пачуццём групы, сацыяльным узаемадзеяннем і сакральнымі аб'ектамі, а таксама адмежаваная ад рэшты горада асаблівасцямі ландшафту (Старажоўка — левабярэжжа Свіслачы).

Ад канца XVIII да пачатку XXI стагоддзя раён ператварыўся з перыферыі ў індустрыйны цэнтр: тут узніклі фарфоравы, піваварны, хлебны, фурнітурны, цвіковы заводы, першы цэх фабрыкі «Камсамолка» (цяпер «Мілавіца») і нават фабрыка ёлачных цацак. Цяпер на нашых вачах Старажоўка робіцца дзелавым і інтэлектуальным цэнтрам. Ва ўсе часы яна была і застаецца сакральным цэнтрам — тут знаходзяцца двое старадаўніх могілак і царква сярэдзіны XIX ст., дзве з трох мінскіх сінагог.



Леў Альпяровіч. Пахаванне гімназісткі на Старажоўскіх могілках. 1909—1913.

### Могілкі для праваслаўных і ўніятаў

Менавіта на Старажоўцы ў месцы ўпадзення ракі Пярэспы ў Свіслач, згодна з легендай, жыў асілак Мянеск, заснавальнік Мінска, які начамі нібыта ездзіў ваколіцамі на сваім млыне. А пахаваны волат, паводле той самай легенды, на Старажоўскіх могілках, якія цяпер сталі Старажоўскім скверам ля царквы Марыі Магдалены.

Могілкі тут узніклі ў канцы XVIII стагоддзя. Паўтара стагоддзя з таго часу ля сцен Пярэспінскай царквы хавалі ўсіх праваслаўных мінчукоў і мінчанак, а пасля скасавання уніі — і ўніятаў: бедных і заможных, шаўцоў і чыноўнікаў. Пахавальныя працэсіі ішлі па вуліцы Кісялёва (колішняй Старажоўскай) да царкоўнай брамы. У XX ст. воз і каня замяніў чорны аўтамабіль. Ехаў ён паволі, людзі ішлі за труной.

### Царкву купілі ў лютэранаў

Спярша людзі бачылі перад сабой драўляную царкву. Гэты старэнькі будынак у 1802 годзе праваслаўныя выкупілі ў лютэранаў і перавезлі на Старажоўку. Ён служыў да 1835, пакуль не згарэў. Новы храм будавалі 12 гадоў. Доўга спрачаліся, з дрэва ці з цэглы будаваць і ці трэба званіца. Сродкаў не ставала, хоць збіралі іх па ўсіх прыходах Мінскай епархіі (прыходскія святары дасылалі ў Мінск рублі і справаздачу, хто з прыхаджан колькі ахвяраваў) і нават за яе межамі (так, абразамі і грашыма дапамаглі кіеўскія вернікі).

Паколькі фундамент новай, усё ж такі мураванай царквы быў шырэйшы за стары, выйшла, што новая царква паўстала на старых пахаваннях. Гэтым, ужо безыменным, магілам, аднак, пашанцавала болей, чым пазнейшым. Пазнейшыя руйнавалі ў паваенныя дзесяцігоддзі. «Нават у 80-я гады зойдзеш — і ўсё было відно, — расказвалі старэйшыя старажоўцы. — Было поўна плітаў. Я памятаю *помнік* удавы палкоўніка. У канцы 60-х крыжоў ужо не было, але помнікі стаялі». Цяпер на паверхні слядоў вобмаль: некалькі надгробкаў ля царквы — і ні знаку пра дзясяткі тысяч пахаванняў у Старажоўскім скверы, абапал сучаснай Старажоўскай вуліцы, прасечанай у 1984-м проста праз цэнтр могілак. Чалавечыя парэшткі знаходзяць тут дагэтуль падчас рамонтных работ.

У страшныя 1930-я царква Марыі Магдалены была апошнім дзейным праваслаўным храмам Мінска. Зачынілі яе 28 ліпеня 1937, арыштаваўшы ўсіх служак і найактыўнейшых прыхаджан. Прысуд быў вынесены ўсім адзін: 1 лістапада васьмярых мужчын і адну жанчыну расстралялі. Яшчэ дзвюх жанчын — жонку клірыка і прыхаджанку — асудзілі да 10 гадоў лагера, адкуль яны ўжо не вярнуліся. Роўна праз год, 1 лістапада 1938, расстралялі рэгента хора Пярэспінскай царквы — знанага кампазітара, аўтара песні «Купалінка» Уладзіміра Тэраўскага. Тэраўскі і жыў побач — на Кісялёва-Старажоўскай, у раёне піваварнага завода.

### Калгасны рынак на костках

Доўгі час былі занядбаныя і другія старажоўскія могілкі — на рагу вуліц Харужай і Чарвякова. Тут у часе Першай сусветнай вайны хавалі тых, хто сканаў у вайсковым шпіталі побач. На могілках была нават капліца, але «царская вайна» не шанавалася бальшавіцкай уладай, памяць пра яе імкнуліся зацерці. І ўрэшце да пачатку Другой сусветнай памятны знак і самі могілкі прыйшлі ў заняпад.

У 1941 годзе немцы зрабілі тут фільтрацыйны лагер. Усім мужчынам прызыўнога веку было загадана сабрацца на Траецкай гары, а адтуль павялі «на Пярэспу». Умовы ўтрымання там апісвае мінчанка Маіна Стырнэ (яна суправаджала сяброўку ў пошуках яе брата): «Гэта была адкрытая пляцоўка, там ні дрэў, нічога не было, не было дзе схавацца. Нам нехта перадаў, што яны на сонцапёку, і іх нікога не выпускаюць, а жанчыны могуць увinduxodzic… уваходзіць і выходзіць. Мы сабраліся з сяброўкай, посуду не было, мы недзе на пажарышчы чайнік знайшлі і міску, набралі вады і пайшлі. Па дарозе запытваліся, і людзі падказвалі, як прайсці. Такая плошча, народу — паспрабуй знайсці. Мы ходзім, глядзім, тут двое мужчын падыходзяць і просяць: дзяўчаткі, дайце нам хоць па глыточку вадзічкі, нам ніхто не прынясе, мы не тутэйшыя. Выявілася, адзін з іх акцёр з нейкага ўкраінскага тэатра, які тут быў на гастролях, а другі — гімнаст Андрэй Чыноў. Ён выступаў у парку Горкага, без сеткі, на турніку недзе на пяць ці шэсць паверхаў вышынёй. Я хадзіла глядзець, яшчэ да вайны... Мы далі ім напіцца, а яны сквапна п'юць, а мы ж нясём Барысу — і баімся, што яны ўсё вып'юць!

У гэты час мужчыны сабраліся цэлай групай і кінуліся да вады — да рэчкі ці канавы. Тут застрачыў кулямёт (я да таго нават не бачыла кулямёты), і ўсе хлынулі назад. Мяне збілі з ног, я ўпала і страціла прытомнасць. Мяне маглі папросту растаптаць, а гэты Андрэй Чыноў устаў нада мной мосцікам, і ўсе вакол яго кацiліся. Калі б не ён, я б там ляпёшкай і засталася».

Сучасны памятны комплекс на месцы могілак Першай сусветнай збудавалі ў сярэдзіне 2000-х. Гэтаму папярэднічала дзесяцігадовая кампанія змагання: спярша на месцы могілак планавалася жылая забудова. Толькі пасля ўзвядзення помніка большасць мінчукоў даведалася, што ўсім вядомы Старажоўскі рынак (яго называлі «Сабачы», «Свінячы», «Птушыны», «Калгасны») стаяў на костках тысяч людзей... Гэта было месца сутыкнення вёскі і горада: сюды сяляне вялі прадаваць коней, свіней, коз і авечак, неслі клеткі з птушкамі і везлі ялінкі да Новага года. Пазней на рынку з'явіліся латкі са шчанюкамі, кацянятамі і папугаямі, а таксама з кактусамі і іншымі дзівоснымі кветкамі. Для дзяцей паездка на Старажоўскі рынак заўжды была святам, трамвай, які ішоў у той бок, пусцеў на гэтым прыпынку, а на зваротным шляху абавязкова запаўняўся шумнымі двухногімі і чацвераногімі пасажырамі.

### Караткевіч купляў птушак і выпускаў

Не толькі дзеці, але і многія дарослыя натхняліся базарным тлумам. Уладзімір Караткевіч, які жыў побач, купляў на рынку лясных птушак і выпускаў на волю. Атмасферу рынка класік перадаў у «Чорным замку Альшанскім»: «Раніцай мяне разбудзіў залівісты крык пеўня, а пасля адчайнадушнае, надрывістае кувіканне парасяці: відаць, неслі ў мяху.

— Не хачу-у! Пусці-і-це! Пусці-іце!

Як на вёсцы. І кожную нядзелю мне вось так прыемна. І гэта адна з прычын, чаму я люблю сваю хату... Нават мне немагчыма ўседзець на месцы кожную нядзелю, калі цераз тракт ад майго дома адкрываецца рынак худобы: коні, каровы, свінні, залатыя рыбкі, авечкі, галубы, тру-

# цэнтр Мінска



**Уладзімір Караткевіч ідзе ў старажоўскі ЗАГС, 1971 год.**

сы, лясное звяр'ё, птушкі, сабакі і ўсё жывое...»

## Бомба пацэліла ў чаргу па хлеб

Для большасці мінчукоў вайна пачалася на Старажоўцы: усенародная будоўля — Камсамольскае возера — адкрылася 22 чэрвеня, і горад, асабліва маладзейшыя яго жыхары, трамваямі і пешкі спяшаліся паглядзець на цуд. Менавіта на возеры многіх застала вестка пра «вераломнае ўварванне». Спярша панікі не было, дзеці працягвалі загараць: вайна недзе там!.. Аднак у першыя ж дні вайны Старажоўка зведала страшныя страты. Адна з бомбаў пацэліла проста ў чаргу, якая стаяла па хлеб у булачную ў раёнчыку, называным «Шанхаем» (цяпер гэта праезная частка праспекта Машэрава ад вул. Крапоткіна да скрыжавання з сучаснай Старажоўскай. Так многія страцілі родных у першыя дні вайны. Мёртвых хавалі дзе прыйдзецца, а жывым выкопвалі яміны-«бамбасховішчы» на ўласных агародах. У агародных ямінах хаваліся таксама ад аблаваў, ператрусаў і арыштаў за сувязь з падполлем.

## Казлоў і яго камень

А падполле было зусім побач: групка пры кожным заводзе, пры кожнай установе. Была ячэйка і ў інфекцыйнай бальніцы на Крапоткіна: гэты помнік архітэктуры функцыянуе і цяпер, усе карпусы 1912 года пабудовы можна разглядзець праз каваныя пруты агароджы. У час вайны на яе месцы быў шчыльны паркан, за ім трымалі палонных: праз шчыліны мясцовыя дзеці прапіхвалі ім кавалачкі кукурузных аладак. Пасля выгнання немцаў з Мінска ў інфекцыйнай бальніцы трымалі параненых. Ніхто не клапаціўся пра іх болей, чым мясцовыя, якія ўжо адкрыта прыносілі незнаёмым хто што мог.

На Старажоўцы жыў і знакаміты падпольшчык Іван Казлоў (1912—1942). Мастак і супрацоўнік філармоніі, ён маляваў пячаткі, пашпарты, аўсвайсы. Як і многіх удзельнікаў мінскага падполля, Казлова арыштавалі ў ноч з 25 на 26 верасня 1942 года. Вядома пра некалькі ягоных лістоў з турмы, што былі перапраўленыя на волю ў пустой ручцы збанка, у якім Казлову насілі перадачы: «З якой бясстрашнасцю, з якой жорсткасцю і велізарнай асалодай я знішчаў бы гэтых гадаў ядавітых, а я ж два гады назад не мог зарэзаць курку... Жыць, жыць! Вось як хочацца!..»

Казлоў здымаў пакой у доме Марыі Калашнікавай на вуліцы Камароўскай. Дом быў знесены разам з усёй прыватнай забудовай у другой палове 1960-х, а на яго месцы каля сённяшняй крамы «Прэстанмаркет» на праспекце Машэрава з'явіўся камень-помнік мінскім падпольшчыкам. Калі побач адкрыўся пункт здачы шклатары, камень перанеслі на іншы бок вуліцы, дзе ён знаходзіцца і цяпер, памылкова паказваючы месца размяшчэння канспіратыўнай кватэры.

## Як сын Крапівы маляваў Жарэса Алфёрава

Гісторыя Старажоўкі мае сувязь з рознымі эпохамі і асобамі — ад легендарнай даўніны да нашага часу. Побач з безымённымі для нас шаўцамі ды краўцамі на Старажоўцы жылі бібліяфіл і заснавальнік першай мінскай прыватнай гімназіі С. Зубакін, кампазітар Уладзімір Тэраўскі, мастакі Антон Каржанеўскі і Валерыяна Жоўтак, артысты Оперы, пісьменнікі Васіль Вітка, Кандрат Крапіва, Міхась Машара, Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Алесь Разанаў, Марыя Вайцяшонак, Анатоль Сыс, Мікалай Чаргінец, Святлана Алексіевіч.

Васіль Вітка захаваў у паэзіі памяць пра старажоўскую карчму «Апошні грош»:

Кожным разам з кірмашу
Бедны кося мой пярэсты
Сам спыняўся за Пярэспай —
Разумеў маю душу,

Што ні ў спёку, ні ў дождж
Нас не выпусціць дарма
Прыдарожная карчма
З назваю: «Апошні грош».

А Даўгінаўскі гасцінец
Вартавала «Тры карчмы».
Не мінеш іх, як чумы, —
Кожнай выкладай гасцінец.

Так у вочы пруць сляпіцай —
Не ўратуешся ніяк,
Калі схопяць за гарляк —
Мусіш кожнай пакланіцца.

Вітка жыў на Старажоўцы пасля вайны, як і яго калегі Кандрат Крапіва і Міхась Машара. Дзеячам культуры, якія вярталіся з эвакуацыі, на першы час знаходзіліся кватэры хіба на ўскраінах сталіцы, якія зведалі меней бамбёжак і разбурэнняў.

Сын Кандрата Крапівы Ігар у школьныя гады сябраваў з будучым нобелеўскім лаўрэатам Жарэсам Алфёравым, сваім суседам. Дом, у якім пасялілася па вайне віцебская сям'я Алфёравых, знаходзіўся на рагу Мопраўскай (цяпер Камуністычная) і няіснай ужо Маладзечанскай вуліц, за сучаснай Старажоўскай. Жарэс Алфёраў успамінаў, як пазіраваў Ігару для экзаменацыйнай работы ў Акадэмію мастацтваў: «Працаваў над партрэтам два тыдні, за гэты час я, голы па пояс, прачытаў усяго Шэкспіра (у іх дома быў поўны збор твораў). Напэўна, мой аголены торс камісію не ўразіў — Ігара не прынялі (праз год ён паступіў ужо на архітэктурны факультэт)». Жывучы на Старажоўцы, Алфёраў захапіўся фізікай, а Ленінградскі ўніверсітэт развіў яго талент.

Старажоўка наўпрост звязаная і з жыццём першай сапраўды беларускай нобелеўскай лаўрэаткі — Святланы Алексіевіч. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў яна жыве на месцы колішняй вуліцы Стараслабадской, з вокнамі на Свіслач. Па суседстве са спадарыняй Святланай жыве адна з гераінь яе кнігі «Час сэканд-хэнд» пісьменніца Марыя Вайцяшонак. Яна нарадзілася ў сям'і высланага ў Сібір польскага асадніка і беларускай сялянкі, страціла ўсіх родных, вырасла ў дзіцячым доме. Можа, таму яна так тонка ўмее адчуць Старажоўку, асіроцелую без дамоў і іх жыхароў, кветнікаў і садоў, і без любых знакаў свайго мінулага:

у горадзе новым
на Старажоўцы
думкамі
прасочваюся
скрозь скарынку
зямлі,
вадой — кропля
за кропляй
да таго бруку
старога,
зняможана
спыняюся ля парога
Менска былога,
я павінна была атрымаць
гэты горад у спадчыну.
Не маючы даверу,
горад не адчыняе
мне дзверы,
бо я прашуся
на чужой
мове.


**Раён Шанхай перад цяперашнім Моладзевым тэатрам, 1960-я. Сярод дрэваў сквера яшчэ бачныя надмагіллі.**

**Паўліна Купрысь**




**30 красавіка ў Мінску прайшоў велакарнавал «Viva, ровар», у ім узяло ўдзел больш за 9000 раварыстаў. У гэты дзень Мінск нагадваў Амстэрдам ці Капенгаген.**



**Беларускія разведчыкі паказалі новую баявую экіпіроўку на вучэннях у Таджыкістане. На фота відаць новы крой, які амаль цалкам паўтарае амерыканскую армейскую баявую ўніформу — ACU.**



**Часопіс Vogue упершыню выйдзе са 100-гадовай мадэллю на сваіх старонках. Ёй стала жыхарка Вялікабрытаніі Бо Гілберт. Выбар мадэлі невыпадковы. Спецыяльная кампанія праводзіцца ў гонар 100-гадовага юбілею моднага часопіса Vogue. Святочны часопіс з'явіцца ў кіёсках 5 мая.**




**З 1999 года ў Тураве працуе адзіная ў Беларусі станцыя кальцавання птушак. Яна размешчана на ўскрайку горада і выходзіць на вялізны поплаў, дзе штогод гняздуюцца дзясяткі тысяч пералётных птушак. Каб паказаць важнасць гэтага месца для прыроды, тут ужо сёмы раз зладзілі «Фэст кулікоў».**



**Лідар расійскага гурту «Аліса» Кінчаў шпіталізаваны ў Санкт-Пецярбургу з інфарктам. Кінчаў прыйшоў у гурт у 1984 годзе і з тых часоў з'яўляецца яго нязменным лідарам. 57-гадовы музыка напісаў большасць песень калектыву.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Калі ваш мужчына спакойна адзявае рознакаляровыя або дзіравыя шкарпэткі, значыць, чаравікі ён здымае толькі дома.

Беражыце яго...

* * *

З дзённіка дзядулі: «Крапіва — лячэбная расліна, якая аказвае дабратворнае ўздзеянне на малады арганізм пры вонкавым прымяненні. Супакойвае, павышае ўседлівасць і навучальнасць».

* * *

Калі я была маленькая, прынесла дадому кацяня, а мама сказала:

— Вось вырасцеш, станеш дарослай, будзе свая кватэра — хоць барана прыводзь!

Як ведала!

* * *

– Куды ты вырашыў паехаць адпачываць?

– Ацаніўшы свой бюджэт, я вырашыў, што не стаміўся.

* * *

Найлепшы тэлевізар — гэта мікрахвалёўка. Без рэкламы і паказвае толькі ежу.

* * *

Доктар вывучае аналізы пацыента.

– Ну, як там мае справы, доктар?

– Хм, можаце ўзяць крэдыт.

– Дык мне няма чым аддаваць.

– А вам і не давядзецца.

* * *

Людзі дзіўныя. Дома яны мяняюць пасцельную бялізну раз на месяц, а на адпачынку ў гатэлі лаюцца, калі яе не памянялі на трэці дзень.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Віцебск.** Гэтай зімой з дзясятак памешчыкаў-немцаў з-пад гарадоў Вэра і Юр'ева, Ліфляндскай губерні, даведаўшыся, што работнік у Беларусі таннейшы і не так горды, як, напрыклад, латыш, нанялі больш соткі сямей беларускіх з-пад самога Віцебска на палявыя работы ў дварах. Кожны работнік дастае 50 рублёў у год грашыма і харчамі.

**«НН». №16-17. 1911.**

**Гэта волі нашай гарт.** Суд Першамайскага раёна прысудзіў Артуру Фінькевічу 2 гады «хіміі» за нанесенае графіці. З прысудам Артур не пагадзіўся, але і абскарджваць намеру не мае, не бачыць у гэтым мэтазгоднасці. Прычынай такога «мяккага» прысуду, улічваючы пагрозу зняволення да 12 гадоў, лічыць нежаданне ўладаў ганьбіцца зняволеннем 21-гадовага юнака.

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 03.05.2016.
Замова №1707.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16017